*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
12
КРАСАВІКА
1991 г.
№ 15 (3581)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ



**ла ў ростані з родным краем.**
**ла ў ростані з родным краем.**





**А мы сабе сеем і сеем...**

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

**Роўна трыццаць гадоў таму, 12 красавіка, Юрый Гагарын здзейсніў першы ў свеце палёт вакол Зямлі... Канечне, нам сёння не да юбілеяў, не да ўспамінаў пра «вялікія поспехі савецкай навукі». Зусім не касмічныя праблемы хвалююць нас. Але, калі задумацца,— хіба той палёт быў усяго толькі дасягненнем ваенна-ракетнай тэхнікі, а не палётам чалавечага духу, не прарывам яго ў бясконцасць?**

**Цяжка пераадолець сілы прыцягнення, груз старых звычак, стэрэатыпаў, нежадання нешта мяняць. Сёння, як і трыццаць гадоў назад.**

### 4 КРАСАВІКА

**ўслед за рабочымі мінскіх заводаў баставалі працоўныя калектывы ў Бабруйску, Бярэсці, Жодзіне, іншых гарадах Беларусі. Пачалі ствараца стачачныя камітэты.**

### 5 КРАСАВІКА

**пачалася палітычная забастоўка на шахтах Салігорска. Беларускія калійшчыкі выступаюць у падтрымку гарнякоў-вугальшчыкаў і іх патрабаванняў.**

**Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч сустрэўся з рабочымі Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

**Нечарговы З'езд народных дэпутатаў Расійскай Федэрацыі скончыўся прадастаўленнем Старшыні Вярхоўнага Савета Ельцыну дадатковых паўнамоцтваў. На 12 чэрвеня прызначаны першыя выбары Прэзідэнта Расіі.**

### 6 КРАСАВІКА

**апублікавана пастанова Прэзідыума ВС БССР «Аб сур'ёзных недахопах пры правядзенні рэформы розничных цэн і забеспячэнні сацыяльнай абароны насельніцтва...». У той жа дзень прынята пастанова СМ рэспублікі аб дадатковых мерах у сувязі з павышэннем цэн.**

### 7 КРАСАВІКА

**з нагоды Вялікадня патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт наладзіў прыём, на якім прысутнічалі Старшыня Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч, міністры, кіраўнікі некаторых грамадскіх арганізацый, рэлігійных канфесій, дыпламатычных прадстаўніцтваў Балгарыі і Польшчы.**

### 8 КРАСАВІКА

**працягваліся інтэнсіўныя перагаворы Мінскага стачкома з урадам. Сярод іншых, даручылі праводзіць свае эканамічныя патрабаванні гарадскому стачкому вадзіцелі тралейбуснага дэпо № 5. Усяго ў Мінску было створана каля 50 забастовачных камітэтаў.**

### 9 КРАСАВІКА.

**ў гадавіну трагедыі ў Тбілісі Вярхоўны Савет Грузіі на сваёй сесіі абвясціў дзяржаўную незалежнасць рэспублікі.**

### 10 КРАСАВІКА

**пачаўся Мінскі кірмаш «Вясна-91», у якім удзельнічаюць каля 370 прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый з усіх рэгіёнаў Саюза.**

### 11 КРАСАВІКА

**на плошчы Леніна ў Мінску другі дзень запар працягваўся шматлюдны мітынг. На ім разам з мінчанамі бралі ўдзел прадстаўнікі бастуючых калектываў Барысава, Жодзіна, Оршы, іншых гарадоў Беларусі. Пачаліся афіцыйныя перагаворы Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі і ўрада са стачкомамі.**

# Духоўны цэнтр адраджэння на Гродзеншчыне

Так вызначыў мэту стварэння факультэта беларускай філалогіі і культуры ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы прарэктар па вучэбнай рабоце прафесар С. Габрусевіч. Дзень 2 красавіка з'явіўся святочным для ўсяго калектыву выкладчыкаў і студыёзусаў універсітэта, а ў першую чаргу — студэнтаў беларускага аддзялення філфака, каму пашчасціла распачаць у гэтыя дні заняткі на новым факультэце, першым у сваім родзе ў рэспубліцы.

На ўрачыстае адкрыццё факультэта ў Гродна прыехалі дырэктар нацыянальнага культурна-эстэтычнага цэнтра імя Ф. Скарыны, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіс, дэкан факультэта беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы А. Барскі, іншыя навукоўцы і літаратары з Рэспублікі Польшча, прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых улад і органаў асветы.

Ва ўступным слове прафесар С. Габрусевіч адзначыў, што новы факультэт мысліцца першай сур'ёзнай прыступкай у справе адбудовы будынка нацыянальнай школы на Гродзеншчыне, ці не першай яго цаглінкай. «Стварэнне факультэта беларускай філалогіі і культуры неабходна універсітэту для таго, каб мець калектыў выкладчыкаў, навукоўцаў, студэнтаў, аб'яднаных адзінствам поглядаў на шляхі адраджэння беларускай мовы і культуры, мець калектыў, які б дапамог універсітэту стаць беларускім факультэтам... Мне факультэт бачыцца як навукова-метадычны, духоўны цэнтр нацыянальнага адраджэння на Гродзеншчыне», — сказаў С. Габрусевіч.

Студэнтаў і гасцей вітаў дэкан новага факультэта дацэнт І. Жук. Яго педагагічнае крэда —барацьба за інтэлект, за нацыянальную свядомасць студэнцтва. Галоўнае, лічыць І. Жук, каб факультэт аднавіў колішнія традыцыі народнага настаўніцтва і ўвогуле з'яднаў універсітэт на грунце беларушчыны. На думку дэкана, гэтаму будзе спрыяць распрацоўка і выкарыстанне новых інтэграцыйных методык навучання, стварэнне навукова-даследчай лабараторыі, якая зоймецца вывучаннем гісторыі культуры Гродзеншчыны, выданне краязнаўчага альманаха з дапамогай абласнога аддзялення Фонду культуры, заснаванне на факультэце творчых літаратурных майстэрань, студый мастацкага слова і народных промыслаў і інш. Такімі мысляцца першыя старонкі летапісу факультэта. «Запаўняць іх давядзецца нам уласнай рукой. І ўжо якім будзе гэты запіс, шмат у чым залежыць ад нас саміх», — рэзюмаваў І. Жук.

Сапраўды, рупліўцам беларушчыны ў Гродзенскім універсітэце сёлета хочацца шчыра зычыць псіхалагічнай моцы і духоўнага гарту, асабліва зважаючы на вядомую ідэйна-палітычную сітуацыю на Гродзеншчыне. Як адзначыў у інтэрв'ю «ЛіМу» І. Жук, факультэт беларускай філалогіі і культуры на першым часе свайго існавання можа нават паўстаць пэўнай апазіцыяй сучаснай ідэйнай кан'юнктуры ў рэгіёне.

Відаць, новы факультэт складзе канкурэнцыю і філфаку БДУ імя У. І. Леніна, бо, маючы ўтрая менш выкладчыкаў, ён мяркуе ажыццявіць такі ж набор студэнтаў (125—дзённае навучанне, 50 — завочнае). Уступныя экзамены — беларуская мова (дыктант), беларуская мова вусна, беларуская літаратура вусна і залік па рускай мове і літаратуры.

Адметная рыса факультэта — адсутнасць камуністычнай партарганізацыі.

Ад імя творчага калектыву скарынінскага цэнтра выкладчыкаў і студэнтаў вітаў А. Мальдзіс, здзяйсненняў на ніве Адраджэння пажадаў польскі навуковец і паэт А. Барскі.

Плёну вам, гродзенцы, і Боскай помачы ў ахвярных намаганнях!

**Юрка ЛАГАДА.**



## ТРЫ АДКРЫЦЦІ

З аншлагам прайшоў першы канцэрт фестывалю «Мінская вясна». Прагучаў «Рэквіем» В. А. Моцарта. Выканаўцы—Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўны каўнаскі хор (мастацкі кіраўнік П. Бінгяліс), салісты І. Чурылайтэ, Л. Дамікайтэ, А. Агамірзаў, У. Пруднікаў, за пультам—маэстра Я. Колабаў. Для мінскіх слухачоў адбыліся як мінімум тры адкрыцці: фестывалю, выдатнага дырыжора і... вечна жывой музыкі Моцарта.

Фота Ул. КРУКА.

# БУДЗЕМ МЕЦЭНАТАМІ?

Яшчэ адна дабрачынная грамадская арганізацыя з'явіцца неўзабаве ў нашай рэспубліцы. Яе афіцыйная назва — Беларуская Асацыяцыя мецэнатаў. І аб'ядноўваць яна будзе, як можна здагадацца, людзей неабыякавых да духоўнай спадчыны беларускага народа, кроўна зацікаўленых у развіцці яго культуры і мастацтва.

Мецэнатамі могуць стаць як самі дзеячы культуры і мастацтва, што дбаюць аб сваёй маладой змене, так і гаспадарнікі, бізнесмены, проста дзелавыя людзі. Сутнасць гэтай новай арганізацыі не толькі ў тым, што яе члены будуць перыядычна ахвяраваць пэўныя сродкі дзеля росквіту нацыянальнай культуры, але і ў тым, што яны самі змогуць іх размяркоўваць і карыстацца пэўнымі прывілеямі ў выглядзе шырокага і свабоднага доступу да набыткаў духоўнай культуры народа.

Члены ініцыятыўнай групы па стварэнні новай грамадскай арганізацыі лічаць, што ў жорсткіх умовах станаўлення рыначнай эканомікі дзейнасць Асацыяцыі мецэнатаў можа стаць надзейным гарантам духоўнага здароўя нацыі, дазволіць пэўным чынам засцерагчы нацыянальную культуру ад крызісу, які непазбежны ўслед за крызісамі эканамічным і палітычным.

Абвясціўшы 25 сакавіка аб сваёй ініцыятыве, група пісьменнікаў і журналістаў прыступае да падрыхтоўкі праектаў Палажэння і Статута Асацыяцыі, заклапочана іншымі арганізацыйнымі мерапрыемствамі. Аб стварэнні Асацыяцыі мяркуецца абвясціць на Устаноўчым Кангрэсе ў канцы гэтага года.

А пакуль члены ініцыятыўнай групы звяртаюцца да ўсіх дзелавых людзей рэспублікі з прапановай падтрымаць высакародную ідэю і запрашаюць паведамляць аб гатоўнасці стаць мецэнатамі па тэлефоне ў Мінску 60-76-17.

Словам, станем мецэнатамі! Зрабіць гэта няцяжка і галоўнае — высакародна.

**М. ТРАФІМЧУК,**
**карэспандэнт-арганізатар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП Беларусі, член ініцыятыўнай групы.**

# ЗА ПАКЛЁП— 500 РУБЛЁЎ

Калегія па грамадзянскіх справах Гродзенскага абласнога суда скончыла разгляд справы па іску пісьменніка Аляксея Карпюка да часопіса «Политический собеседник» аб абароне гонару і годнасці.

Сутнасць справы вось у чым. У 10-м нумары часопіса за 1990 год апублікаваны артыкул Я. Ледзянёва «Істіна даражэй за ўсё». Яго аўтар, так бы мовіць, «палемізуе з з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым, які выступіў у «Литературной газете» за 4. 06. 90 г. у абарону Аляксея Карпюка і адвёў розныя інсінуацыі на адрас таварыша па пяру — у прыватнасці, з боку «Политического собеседника». Я. Ледзянёў, са спасылкай на «факты, узятыя з архіва (чамусьці не названага), абвінаваціў Карпюка ў тым, што ён прыпісаў сабе і сваім бацькам (!) удзел у партызанскай барацьбе з фашыстамі, уцёкі з нямецкага лагера смерці, што ён супрацоўнічаў з гітлераўскай адміністрацыяй, быў агентам дэфензівы і г. д., у тым жа духу. Ва ўсім гэтым, як высветліў суд, няма ні слова праўды. Дакументальна пацверджана членства Аляксея Нічыпаравіча Карпюка ў камсамоле Заходняй Беларусі, яго і яго бацькоў партызанскія заслугі. Бацька пісьменніка, член КПЗБ (што таксама спрабаваў адмаўляць аўтар публікацыі ў «ПС»), быў узнагароджаны ў час вайны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Звесткі, прыведзеныя ў часопісе, прызнаны судом паклёпніцкімі.

А. Карпюк у сваёй іскавай заяве патрабаваў, каб часопіс выплаціў яму ў якасці сімвалічнай платы за знявагу і паклёп 1 рубель. Зразумела — пасля публічнага абвяржэння лжывых фактаў. Суд, аднак, прызнаў такое «пакаранне» недастатковым. Судовая калегія вырашыла спагнаць за прычынены маральны ўрон 500 рублёў з рэдакцыі і 50 рублёў — з аўтара публікацыі Я. Ледзянёва на карысць істца...

У час размовы з Аляксеем Нічыпаравічам, у якой мы павіншавалі пісьменніка са справядлівым рашэннем суда, ён падкрэсліў: гэта не толькі яго асабістая перамога, гэта яшчэ і перамога права над сталінскімі метадамі барацьбы з «няўгоднымі».

**НАШ КАР.**

# ХРОСНЫМ ХОДАМ ПА СТАЛІЦЫ...

Сёлета ў Мінску, упершыню ад часоў скасавання Уніі ў 1939 годзе, мінскія грэка-католікі легальна адзначалі Свята Уваскрэсення Госпадняга.

У абсталяванай у адным з прыватных дамоў па вуліцы Якуба Коласа капліцы ў ноч з 6 на 7 красавіка адбылося ўрачыстае набажэнства, якое правіў дэкан беларускіх грэка-католікаў а. Пётра Кузьмічоў.

Пасля па вуліцы Якуба Коласа, Чырвонай, Янкі Купалы, Максіма Горкага адбыўся хросны ход і каля царквы свсв. Пятра і Паўла была адслужана літургія. Айцец дэкан звярнуўся да прысутных з казаннем, у якім выказаў надзею, што наступны Вялікдзень мінскія грэка-католікі будуць святкаваць ужо ў гэтым храме.

На свяце прысутнічалі беларускія і ўкраінскія грэка-католікі з Полацка, Вільні і Кіева.

**С. АБЛАМЕЙКА.**





# ТЫДЗЕНЬ МІЛАСЭРНАСЦІ?

**Раніцай 3-га красавіка на вечна шумнай ад трамвайнага і аўтобуснага руху вуліцы Даўгабродскай было незвычайна ціха. Яшчэ больш незвычайна для рабочага дня выглядаў збор тысяч людзей на вуліцы. Забастоўка. Каля Мінскага электратэхнічнага завода застылі трамваі. Неяк недарэчы ўспомніўся радок з Маякоўскага: «гонку свою продолжали трамы уже — при социализме». Прыехалі... на дахах некалькіх абясточаных «трамаў» шчыльна сядзелі рабочыя ў спяцоўках. Карціна амаль што сюррэалістычная.**

**Можа, некаму ўсё гэта сапраўды падалося фантасмагорыяй — як і мірная акупацыя рабочымі плошчы ў цэнтры сталіцы, выступленні каля помніка правадыру рэвалюцыі стачкомаўцаў. Але хіба адміністрацыйнае павышэнне цэн у якасці пераходу да рынкавых адносін і фармальная кампенсацыя — гэта не абсурд? А новыя неймаверныя цэны ў рабочых і студэнцкіх сталоўках, школьных буфетах, павышэнне ледзь не ўдвая платы за дзіцячыя садкі — не фантасмагорыя? (Як вядома, тут адразу быў дадзены «задні ход». Але няўжо нельга было загадзя прадбачыць асаблівую непапулярнасць тых рашэнняў?) І ў рэшце рэшт, хіба не парадокс, што Беларусь — ледзь не адзіная з рэспублік, у якой аб'ём вытворчасці летась ВЫРАС на 5,2 працэнты ў параўнанні з планам — перажывае таварны голад? Забастоўкі ў «самай стабільнай» рэспубліцы падобна ўспышцы маланкі высветлілі ўсю абсурднасць каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Рэакцыя рабочых на чарговы «эксперымент» Цэнтра аказалася нармальнай, хоць і ў нечым нечаканай нават для іх саміх.**

**Даводзілася чуць версію, быццам рабочыя на Беларусі забаставалі з той прычыны, што ўзровень жыцця ў нас вышэйшы, чым у іншых рэспубліках, і таму, маўляў, шок ад «цэнавай тэрапіі» выклікаў бурную рэакцыю. Але справа ў тым, што рабочыя запатрабавалі не толькі павышэння зарплаты (а дакладней — магчымасці зарабляць столькі, колькі трэба на нармальнае жыццё). Яны запатрабавалі адстаўкі Прэзідэнта, правядзення датэрміновых шматпартыйных выбараў, вываду парткомаў з прадпрыемстваў, нацыяналізацыі маёмасці КПСС. Можна, зразумела, «не заўважаць» палітычных пытанняў і засяродзіць увагу на пажарных мерах па зніжэнні сацыяльнай напружанасці (адмена пяціпрацэнтнага падатку, перагляд тарыфаў, павелічэнне кампенсацый на дзяцей, зніжэнне расцэнак у грамадскім харчаванні і г. д.), што ўрад і зрабіў. І гэта, трэба прызнаць, само па сабе нямала. Такой актыўнасці, такой клапатлівасці кіраўнікоў усіх рангаў пра нас, простых грамадзян, і не ўспомніш. Выезды на прадпрыемствы, сустрэчы з рабочымі калектывамі, сумесныя (!) прапановы ўрада і федэрацыі прафсаюзаў, пастановы, брыфінгі... Магло падацца, што ўрад разам з афіцыйнымі прафсаюзамі і, канечне, партыйнымі органамі толькі і дбаюць пра дабрабыт народа — так бы мовіць, займаюцца дабрачыннай дзейнасцю ў рамках Тыдня міласэрнасці. Вось толькі розныя там стачкомы блытаюцца пад нагамі, перашкаджаюць...**

**На брыфінгу ў Доме ўрада Старшыня Дзяржэканомплана БССР С. Лінг расказваў пра намечаныя меры па стабілізацыі эканомікі, пра фінансавыя цяжкасці і зрывы паставак у рэспубліку. Павышэнне зарплаты, на яго думку, прывядзе да яшчэ большага дэфіцыту бюджэта, і нават фінансавага краху. Гаварыў важка, аргументавана, зацікаўлена, з веданнем справы і разуменнем адказнасці. Але не абмінуў выпадку сказаць: стыхійны пратэст рабочых спрабуюць выкарыстаць безадказныя людзі, якія грамчэй за ўсіх крычаць на плошчах. Відаць, ніяк не звыкнуцца ў высокіх кабінетах з думкай, што рабочыя могуць гаварыць с в а і м голасам, без пасрэднікаў.**



**(Працяг на стар. 4).**

# ВОЛЯ, АДКАЗНАСЦЬ, ЗГОДА

## Заява Цэнтральнай рады БСДГ «Аб забеспячэнні фізічнага выжывання, негвалтоўнага развіцця Беларусі»

**Дзяржаўныя, палітычныя і эканамічныя структуры Саюза знаходзяцца ў крытычным стане. У розных рэгіёнах краіны, у тым ліку і каля межаў нашай рэспублікі, разгортваюцца гвалтоўныя, разбуральныя працэсы, якія могуць перакінуцца і на беларускую зямлю. Гэта стварае пагрозу стабільнасці і развіццю рэспублікі, адбірае ў нас і нашых дзяцей апошнія шанцы на выратаванне ад чарнобыльскай навалы. Таму Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада мае намер рабіць актыўныя захады па дасягненні нацыянальнай згоды на Беларусі. Тым больш, што горкі чарнобыльскі вопыт яскрава сведчыць: мы можам разлічваць у асноўным толькі на свае сілы.**

**Барацьба за фізічнае і духоўнае выжыванне нацыі — гэта ў першую чаргу барацьба за эканамічна развітую і сацыяльна здаровую Беларусь. Нармальнае ж развіццё рэспублікі патрабуе наяўнасці грамадзянскіх і эканамічных свабод, палітычнай стабільнасці, якая немагчыма без узаемаразумення і згоды паміж асноўнымі палітычнымі сіламі сённяшняй Беларусі. Таму Цэнтральная рада Грамады выступае з ініцыятывай распрацоўкі і прыняцця «Хартыі нацыянальнай згоды дзеля выжывання», якая магла б засноўвацца на наступных прынцыпах:**

**— першаснасць і суверэннасць інтарэсаў Беларусі перад любымі іншымі;**

**— адмаўленне ад скарыстання гвалтоўных сродкаў ва ўнутрыпалітычнай барацьбе, у прыватнасці — адмаўленне ад скарыстання вайсковых і міліцэйскіх сіл у вырашэнні палітычных пытанняў;**

**— нейтральнасць дзяржаўных органаў у адносінах да палітычных партый і рухаў;**

**— забеспячэнне роўнага доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі палітычных партый, незалежных рабочых прафсаюзаў і рухаў розных арыентацый;**

**— легітымізацыя свабоднага ўдзелу ў негвалтоўнай дзейнасці любых палітычных арганізацый і ўтварэнняў;**

**— забеспячэнне роўных умоў і магчымасцей для існавання розных форм уласнасці;**

**— максімальнае спрыянне адраджэнню і развіццю беларускай мовы, культуры і нацыянальнай самасвядомасці;**

**— дэпартызацыя адукацыі;**

**— стварэнне ўласнай сістэмы рэспубліканскай бяспекі, першым крокам да чаго магло б стаць стварэнне ў складзе Узброеных Сіл СССР дэпалітызаваных вайсковых злучэнняў з ліку грамадзян ці нараджэнцаў Беларусі.**

**Гэтая Хартыя, тэкст якой мог бы быць разгледжаны і ўдакладнены ў выніку кансультацый паміж прадстаўнікамі ўсіх парламенцкіх груп і ўрада рэспублікі, можа быць потым зацверджана Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.**

**Цэнтральная рада БСДГ лічыць, што выпрацоўка і падпісанне «Хартыі нацыянальнай згоды дзеля выжывання» і стварэнне адпаведнага Камітэта нацыянальнай згоды з прадстаўнікоў усіх партый і рухаў, што далучыліся да Хартыі, можа папярэдзіць разбуральныя працэсы ў жыцці рэспублікі, забяспечыць фізічнае і духоўнае выжыванне нацыі, негвалтоўнае, мірнае развіццё Беларусі. Наша выратаванне — у нашай добрай волі, у нашай сумеснай адказнасці за лёс свайго народа, у нашай згодзе!**

## АДГАЛОСКІ

На пачатку красавіка партыйная прэса змясціла паведамленне пад красамоўнай назвай «Грошы КПСС — дзецям Чарнобыля», у якім гаварылася аб пералічэнні 250 мільёнаў рублёў з партыйнага бюджэту на ажыццяўленне аздараўленчых мерапрыемстваў у абласцях Беларусі, падвергнутых радыяцыйнаму забруджанню звыш аднаго кюры на квадратны кіламетр.

Рэзалюцыя XXVIII з'езда КПСС выканана. Куды канкрэтна выдаткуюцца партыйныя мільёны? Іх «рэкамендавана накіраваць на будаўніцтва і забеспячэнне дзіцячых медыцынскіх устаноў, прыдбанне пуцёвак у санаторыі і аказанне дапамогі мнагадзетным сем'ям, паляпшэнне харчавання ў школах і дашкольных установах». Дабрачынна, ахвярна... Але ці не лепш было б, каб за гэтыя грошы былі пабудаваны на чыстай тэрыторыі рэспублікі рэабілітацыйны цэнтр, комплексная гематалагічная лякарня, з'арганізавана сістэма незалежнага радыялагічнага кантролю, што прапануюць, і не першы ўжо год, беларускія вучоныя? А так — атрымаюць дзеці тую ж грашовую кампенсацыю для школьных абедаў, але

### Вер вачам сваім: беларускія «Крэсавяцы»

У «Гродненской правде» за 2 красавіка можна прачытаць наступную нататку: «Ні ў адным зборніку няма песень, якія выконвае фальклорны ансамбль «Крэсавяцы». Запісаны яны са словаў лідскіх старажылаў — аматараў польскай народнай творчасці». Далей распавядаецца аб гісторыі творчага калектыву, гастрольных паездак і г. д. Подпіс пад тэкстам: «По материалам БЕЛТА».

Канешне, у часы перабудовы і публічнасці ў разнастайных аматараў значна паболела магчымасцей дзеля самавыяўлення. Так бы мовіць, вольнаму воля. Толькі ніякавата робіцца, калі галасы аматараў польскага фальклору на Гродзеншчыне пачынаюць гучаць у зусім пэўнай і ніяк не бяскрыўднай палітычнай аранжыроўцы — «крэсавай». Зрэшты, аматарам фальклору палітычную непісьяно працуе «па той бок» ідэалогіі. Разам з тым — тыражаваць згаданы матэрыял без традыцыйнай ідэалагічнай экспертызы?.. Вось і не вер пасля такіх прыкрых ідэалагічных прамашак, што «польскае» пытанне ў Беларусі не падаграваецца штучна.

### «Сеньёры» і злозычліўцы Адраджэння

«Сеньёры Адраджэння, або Якіх духоўных настаўнікаў прапануюць нам некаторыя лідэры БНФ» — матэрыял з такой мудронай назвай быў пастаўлены ў сакавіку камуністычным газетам абласнога і раённага ўзроўню нейкім загадкавым прэс-цэнтрам «Ажур». Якраз напярэдадні другога з'езда БНФ мясцовыя газеты ў шэрагу нумароў, з працягам выдрукавалі ласкава прапанаваныя з мінскага прэс-цэнтра нататкі за подпісам А. Аляксандрава. Відаць, у сталіцы аматары скандальных, «прынцыповых» публікацый вымушаны лічыцца з адукацыі раць... рацьбы, праводзячы прамыя аналогіі паміж дзейнасцю такіх каларытных асоб, як А. Гітлер, В. Кубэ, В. Івaноўскі, Р. Астроўскі і... З. Пазняк, М. Ткачоў, Ю. Хадыка, А. Марачкін, В. Вячорка, Г. Грушавы. Такое ў А. Аляксандрава «складывается впечатление». Напрыканцы аўтар цалкам атаясамлівае сучасных дзеячаў Адраджэння ўвогуле і лідэраў БНФ у прыватнасці з нацыстамі: «Никого не щадили слуги нацизма, прикрывавшиеся высокими словами о «Бацькаўшчыне», «Айчыне», «Адраджэнні». Не приходится ожидать от них милосердия и сегодня».

«Впечатление» аўтара закончана на імператыўнай ноце. Магчыма, А. Аляксандраў такім чынам рупіўся мацней пераканаць чытачоў у сваёй слушнасці. Атрымаўся відавочны перабор... Але гэта зусім не вызваляе аўтара і сродкі масавай інфармацыі ад юрыдычнай адказнасці за змест надрукаваных «меркаванняў і ўражанняў».

Дарэчы, прэс-цэнтр «Ажур» існуе пры асацыяцыі ветэранаў друку Мінскай гарадской арганізацыі СЖ БССР.

Юрась ЗАЛОСКА.

**Віктар ШНІП**



## Балада спакою

І чорныя птахі, і белыя птахі
Лятаюць над пляцам ля чорнае плахі.
І тоўпяцца людзі, як быдла, на пляцы,
Яшчэ ў кулакі не сціскаюцца пальцы,
Бо страх за сваё лупцаванае цела
Яшчэ не дае, каб падумаць хоць смела
Пра волю і долю, пра светлыя далі.
Дзе трэба крычаць, там маўчаць, як маўчалі.
І кат, нібы д'ябал, сякеру рыхтуе,
І вязень прад смерцю свой крыжык цалуе.
Свой крыжык цалуе і моліцца Богу,
Да смерці сваёй прывыкае патроху.
За што ж у хлапчыны жыццё забіраюць!
Не знае сам Бог, як і людзі не знаюць.
Ды толькі падпісана князем папера,
Ды толькі навострана катам сякера,
І толькі маўчаць, як праклятыя, людзі,
І тое, што пісана — тое і будзе...
А чорныя птахі, а чорныя птахі
Лятаюць над горадам, нібы манахі.

●

Прастор ахутаны туманам,
Расой асветлена трава.
— Жыццё напоўнена падманам!
Крычыць галодная сава.
І крыкам жудасным пужае
Мяне ля дымнага кастра.
Касцёр самотна дагарае —
Ісці далей прыйшла пара.
І я пайду па белым свеце
І праз туман, і праз падман.
І дым сарве з кастрышча вецер,
Нібы залётны хуліган,
І панясе па-над зямлёю.
Але пакуль гарыць касцёр,
І сцежка залатой змяёю
На ўзгорку цягнецца да зор,
Сядзець мне і глядзець у неба,
І слухаць злосную саву.
Я ёй бы даў, гаротнай, хлеба,
Ды сам, нібы сава, жыву,
Штодня губляюся ў тумане,
Але ўсё ж бачу праз імглу:
Дом, збудаваны на падмане,
Ператвараецца ў турму.

●

Лёгка адракаліся ад Бога,
Гэтак жа цяпер — ад партбілета.
Ды ў грахах я не вiню нікога,
Бо я сам мо горай прайдзісвета.
Лёгка адракацца ад паперы,
Толькі аніхто не адрачэцца
Ад машыны, ад сваёй кватэры
Ці ад дачы.
Ну а Раб нап'ецца
І засне ля жонкі невясёлай.
Што яму, што наша мова гіне,
Што пусцеюць, паміраюць сёлы.
Чорны пыл лятае па Айчыне.
Раб — ёсць раб. І што яму да Бога,
Што яму да нейкіх партбілетаў —
У яго свая ў жыцці дарога,
У яго свая святая мэта.
І сябе не лічачы рабамі,
Мы крычым, што дрэнна нам жывецца.
Як героі, ходзім пад сцягамі,
Толькі аніхто не адрачэцца
Ад пасады і ад службы ў Хама.
...І, спаліўшы партбілет на пляцы,
Ты ідзеш, нібы святы, да Храма
І дрыжаць, нібы у юды пальцы.

## У пошуках долі

На жоўтае, нібы пустэльня, поле
Садзіцца шэры і гарачы пыл
З-пад кол вазоў — імчыцца люд за доляй,
Ды не дагнаць яе, як небасхіл.

І коламі разбітая дарога,
Як рэчышча самотнага жыцця,
Нясе людзей, якія вераць Богу,
Да шэрага, як мёртвы пыл, быцця.

Яшчэ не позна ім назад вярнуцца
Да родных ніў і дзедаўскіх крыжоў.
Ім страшна, што з іх дома засмяюцца,
Ды больш страшней, што ўжо няма дамоў,

А толькі попел, а на ім вароны
Капэшуцца, галодныя, крычаць.
І небасхіл наперадзе чырвоны,
Нібыта й там багацці ўсе гараць.

Ды кожны верыць — шчасце ўсё-ткі будзе.
Ламаюцца старэнькія вазы,
І ўжо ідуць пяшком за доляй людзі,
Кідаючы пад ногі абразы.

●

На свята божае у Храме,
Нібыта ў будні дзень у краме,
Стаім за свечкамі ў чарзе.
Чарга, як сонная, паўзе.
На сподак белы сыплем грошы,
Дае нам свечкі служка божы.
Мы задаволены сабой,
І хоць малітвы мы не знаем,
Падоўгу прад сабой рукой,
Пра Бога шэпчучы, махаем.
І палім свечкі ля ікон
І хочам, каб заўважыў Ён
Набожнасць нашу, наша гора.
І ўсе штурхаюцца, гавораць,
Успамінаючы чарта,
Што светлай долі не відаць...
І ў цеснаце не плачуць дзеці,
І свечкі тушыць д'яблаў вецер.

## Бязглузды дождж

Бязглузды дождж, як наша існаванне,
Размыў дарогі да святых магіл.
Жыве ў маёй душы расчараванне
У Светлым Заўтра. Чорны небасхіл
Палохае таемнасцю сваёю.
Там спеюць навальніцы і вятры.
Хлапчук-сусед, сустрэўшыся са мною,
Жадае па-расейску гаварыць,
І пасміхаецца з маёй размовы.
А дождж ідзе, і мокрыя сцягі,
Нібы анучы, на дамах вясковых
Чакаюць свят. Святкуюцца грахі,
Узведзеныя ў святасць пралетарам.
І на душы самотна, што ў турме.
У клубе, што віном прапах, гітара
Брынчыць аб рускай тройцы і зіме...
А дождж ідзе бязглузды і бясконцы,
І людзі ўжо чакаюць Судны Час.
Па радыё нам абяцаюць сонца,
І, пэўна, будзе сонца, ды без нас.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЛЯХАВІЦКІЯ ПАРАДОКСЫ

Больш чым год, як прыняты Закон аб мовах Беларускай ССР. Амаль пяць месяцаў мінула з таго часу, калі закон пачаў дзейнічаць. Якія ж зрухі адчуваюцца ў справе адраджэння роднай мовы і нацыянальнай культуры ў Ляхавіцкім раёне зараз?

Адзін з парадоксаў — гэта вынікі падпіскі на беларускамоўныя газеты і часопісы на 1991 год. Я маю на ўвазе, перш за ўсё, бюджэтную падпіску для ачагоў культуры: бібліятэк, школ, устаноў, калгасаў, саўгасаў. У вёсках раёна пражываюць выключна беларусы, ды і ў райцэнтры таксама нацыянальны склад пераважна беларускага паходжання. Аднак з 50 грамадскіх бібліятэк сёлета толькі тры атрымліваюць «ЛіМ», пятнаццаць — часопіс «Спадчына» і ні адна бібліятэка не выпісала газету «Наша слова» і часопіс «Крыніца». Вось вам наглядны абразок, як аддзел культуры райвыканкама спрыяе адраджэнню роднай мовы, роднага слова.

Амаль пазбаўлены беларускамоўных газет бібліятэкі сярэдніх і васьмігадовых школ. З 23 сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ толькі пяць атрымліваюць «ЛіМ», адна — часопіс «Спадчына» і ніводная «Наша слова». Дарэчы, «Наша слова» ў раёне атрымліваюць толькі 17 чалавек, гэта людзі з высокай нацыянальнай самасвядомасцю.

У раёне працуе больш за трыццаць настаўнікаў беларускай мовы, не менш і выкладчыкаў гісторыі, а выпісана толькі 42 экземпляры «ЛіМа», з іх 13 па бюджэтнай падпісцы, а значная колькасць індывідуальных падпісчыкаў не настаўнікі. Балюча і сорамна за настаўнікаў беларускай мовы ў раёне, якія ігнаруюць сваю прафесійную беларускамоўную газету, дзе друкуецца шмат матэрыялаў па беларускай літаратуры, багаты матэрыял з гісторыі Беларусі, культурнай спадчыны нашага народа.

Мяне вельмі здзіўляе пазіцыя дырэкцыі Жарабковіцкай сярэдняй школы за іх негатыўныя адносіны да беларускамоўнага перыядычнага друку. Па бюджэтнай падпісцы тут не выпісаны ні «ЛіМ», ні «Спадчына», ні «Наша слова». Як жа так атрымліваецца? Калісьці, у час панавання пілсудчыны ў Заходняй Беларусі, вёска Жарабковічы славілася ў Ляхавіцкім раёне высокай нацыянальнай самасвядомасцю яе жыхароў: тут існавалі самыя буйныя ў раёне гурткі Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады, Таварыства беларускай школы, сябры якіх вялі самаахвярную барацьбу за родную мову, за адкрыццё беларускай школы. Пад націскам люду санацыйныя ўлады Польшчы вымушаны былі дазволіць выкладаць у Жарабковіцкай школе беларускую мову і беларускую літаратуру. Ігнараванне кіраўніцтвам Жарабковіцкай сярэдняй школы беларускамоўнай прэсы ніяк не стыкуецца з яго дэкларацыямі аб адраджэнні беларускай мовы.

Якую ж пазіцыю заняў аддзел народнай адукацыі Ляхавіцкага райвыканкама адносна падпіскі на беларускамоўную перыёдыку настаўнікамі раёна? Нейтральную. У апараце аддзела не бачна якіх-небудзь зрухаў у адраджэнні роднай мовы: у кабінетах і па-за кабінетамі гучыць ва ўсю моц «великий, могучий русский язык», кідаюцца ў вочы аб'явы, плакаты, дыяграмы таксама на рускай мове, мабыць, як у любым аддзеле народнай адукацыі Расійскай Федэрацыі. Праўда, мы з загадчыкам аддзела карыстаемся білінгвізмам: ён рэжа «по-русски», я — на беларускай мове. Абыходзімся без перакладчыкаў. (Загадчык аддзела чалавек тутэйшы, з вёскі, якая блізка каля райцэнтра. Па пашпарце — беларус. У свой час мы з ім вучыліся ў дзесятым класе, затым — у Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Тады ён гутарыў на матчынай мове).

Парадоксам — ігнараваннем закона аб мовах — было ў пачатку навучальнага года адкрыццё ў райцэнтры рускамоўнай школы-гімназіі, хоць дзве школы райцэнтра таксама рускамоўныя. Гэта ніяк не стыкуецца з рэзалюцыяй, якая была прынята летась навукова-практычнай канферэнцыяй па адраджэнні беларускай мовы, арганізаванай Міністэрствам народнай адукацыі БССР і Таварыствам беларускай мовы. У рэзалюцыі было запісана, што школы-гімназіі ў Беларусі павінны быць беларускамоўныя. Хто праявіў такую звышінтэрнацыянальную ініцыятыву ў Ляхавічах, цяжка цяпер знайсці, абапіраючыся, як у нас заведзена, на «калектыўную думку», «аднагалоснае рашэнне», «адзінства поглядаў». Праўда, у аддзеле народнай адукацыі і дырэкцыя школы-гімназіі суцяшаюць, што ў перспектыве школа-гімназія стане беларускамоўнай. Але ж мы пераканаліся на практыцы, што нам абяцалі «ў перспектыве»...

Яшчэ адзін парадокс сведчыць аб пэўным застоі ў справе адраджэння роднай мовы ў раёне. Розныя афіцыйныя аб'явы, якія развешаны ў райцэнтры, — усе на рускай мове. Загляньце ў калідоры і кабінеты ўстаноў райцэнтра — скрозь тое самае. Часта даводзілася чытаць у прэсе, чуць з вуснаў наменклатурных работнікаў: маўляў, для адраджэння беларускай мовы спатрэбіцца шмат дзяржаўных сродкаў. Але варта спытаць у такіх «ахоўнікаў» дзяржаўнай казны: колькі трэба для таго, каб пісаць аб'явы на беларускай мове? Вядома, ні капейкі! Відаць, не ў гэтым справа, а ў іншым: некаторым партыйным функцыянерам і наменклатуры перашкаджае славуты звышінтэрнацыяналізм. Так і хочацца спытаць звышінтэрнацыяналістаў: «Дзе ж ваш нацыянальны гонар? Няўжо вы так пакрыліся луской нацыянальнага нігілізму, што пагардліва адносіцеся да матчынай мовы, да ўсяго роднага, забываеце, хто вы?» Звышінтэрнацыяналізм парадзіў у пэўнай часткі партапарату і наменклатуры манкрутства, людзей без роду і племені.

Параўноўваючы сучаснае з мінулым, дазволю сабе зрабіць экскурс у гісторыю раёна. Пры буржуазнай Польшчы ў раёне дзейнічалі шматлікія падпольныя камуністычныя ячэйкі, члены якіх распаўсюджвалі нелегальныя лістоўкі ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі. Амаль у кожнай лістоўцы былі заклікі да змагання за адкрыццё беларускіх школ розных тыпаў, за беларускую мову ва ўстановах. А сёння спадкаемцы, нашчадкі былых камуністаў Заходняй Беларусі, партыйныя функцыянеры цураюцца беларускай мовы! На словах яны быццам бы і за адраджэнне роднай мовы і нацыянальнай культуры, а справы штосьці не відаць.

І апошні парадокс. Пры буржуазнай Польшчы ў Ляхавіцкім раёне недалёка ад вёскі Мазуркі (былая Мядзведзіцкая гміна) жыў памешчык Крагельскі. У канцы дваццатых, — пачатку трыццатых гадоў Крагельскі займаў пасаду Навагрудскага ваяводы. У польскім сойме ён выступаў за адкрыццё беларускіх школ у Заходняй Беларусі. Паляк па нацыянальнасці, пан Крагельскі заўсёды гутарыў з сялянамі навакольных вёсак толькі на беларускай мове. Дарэчы, як успамінаюць старажылы, ён у гутарцы стараўся ўжываць беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. А вось нашы старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў — і не прыезджыя — двух слоў не звяжуць. Праўда, пра пана Крагельскага ў каменданта Мядзведзіцкага пастарунку было сваё меркаванне — за вочы ён гаварыў пра яго: «Холера большэвік».

...Крыўдна, балюча, маркотна на душы, калі бачыш, як далей ганьбуецца родная мова, прыходзіць у заняпад нацыянальная культура. Так і хочацца сказаць усім звышінтэрнацыяналістам-наменклатуршчыкам словамі загалоўка Звароту беларускай інтэлігенцыі да XXXIII з'езда КПБ: «Каму, якому народу служым?» Калі «новой исторической общности» homo soveticus з правінцыі «Северо-Западный край», то так і трэба сказаць народу, а не гуляць у хованкі.

Пакуль жа на бляклым фоне нацыянальнага адраджэння «белы дом» (так называюць жыхары раёна будыніну на чатыры паверхі, дзе размешчаны райкам КПБ, райвыканкам, райкам камсамола і іншыя раённыя ўстановы) працягвае пышна «квітнець русчызнаю»...

**В. СОКАЛ,**
**выдатнік народнай адукацыі БССР.**

Ляхавіцкі раён.

# ТЫДЗЕНЬ МІЛАСЭРНАСЦІ?

(Пачатак на стар. 3).

**Насуперак дамоўленасці, прадстаўнікам стачкомаў абмежавалі выхад у эфір да 5 мінут замест 15, а потым і наогул адмовілі ў праве даваць інфармацыю з першых вуснаў. І наіўна было б у дадзенай сітуацыі абвінавачваць кіраўніцтва рэспубліканскага дзяржтэлерадыё. Палітыку вяршаць тыя, у чыіх руках рэальная ўлада, а значыць — і кантроль над сродкамі масавай інфармацыі.**

**Можна сёння спрачацца, стыхійным ці свядомым стаў пратэст рабочых, ці правільную тактыку праводзяць стачкомы, ці выказваюць яны інтарэсы ўсіх працоўных або толькі часткі іх. Але гэта ўсё — для гісторыкаў. Хто і ў чым можа папракнуць забастоўшчыкаў? У цяперашняй сітуацыі куды важней знайсці адказ: што рабіць далей?**

**Віталь ТАРАС.**

P. S. Як паведамілі ў гарадскім стачкоме, 9-га красавіка на аўтазаводзе, МТЗ, «Інтэграле», многіх іншых заводах Мінска прайшлі папераджальныя забастоўкі і мітынгі з патрабаваннем прадаставіць эфір прадстаўнікам бастуючых.

10-га красавіка скончыўся тыдзень, які рабочыя далі ўраду на роздум. Забаставалі каля 60 прадпрыемстваў і навучальных устаноў Мінска. Шматлікія калоны рабочых рушылі на плошчу Леніна, каб выказаць палітычныя патрабаванні. Выступаючы на мітынгу, першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч заявіў, што ўвесь пакет патрабаванняў кіраўнікі рэспублікі перадалі Прэзідэнту СССР і прэм'ер-міністру. Ён паведаміў таксама аб рашэнні прадаставіць прамы эфір членам стачкомаў. У мітынгу ўзялі ўдзел народныя дэпутаты рэспублікі ад апазіцыі, актывісты незалежных прафаб'яднанняў, прадстаўнік стачкомаў Данбаса. Прагучалі заклікі да ўсеагульнай палітычнай стачкі і рабочай салідарнасці.

**В. Т.**

# НАВУКА ЦІ ПАСЛУГАЧКА?

Функцыянаванне гістарычнай навукі ў нашым ідэалагізаваным грамадстве не магло не адбіцца на ёй адмоўна, як, дарэчы, і на іншых грамадскіх дысцыплінах. Догма супрацьпаказана любой навуцы, тым больш гістарычнай, якая вымагае аб'ектыўнага падыходу да кожнай падзеі ў жыцці народа, дзяржавы, калі б гэтыя падзеі ні адбываліся.

Сёння ў рэспубліцы ў галіне гістарычнай навукі працуе больш як 1200 чалавек, у тым ліку 80 дактароў і 600 кандыдатаў навук. Ці многа гэта? З пункту гледжання колькасці — так. А якасці?

Найбольш эфектыўнай формай падрыхтоўкі высокакваліфікаваных даследчыкаў з'яўляецца аспірантура. За пасляваенны час сетка яе значна пашырылася. Але, разам з тым, узнікае пытанне — чаму навучаюць у аспірантуры? Каб быць туды залічаным, трэба здаць так званы кандыдацкі мінімум — экзамен па марксісцка-ленінскай філасофіі і замежнай мове па курсе ВНУ, якую прэтэндэнт толькі што скончыў. Залічаны ў аспірантуру ўвесь час займаецца фактычна ў абранай ім галіне навукі — назапашванні і сістэматызацыі фактаў, неабходных для напісання дысертацыі. А вось як аспірант гэта робіць, залежыць толькі ад ягоных асабістых схільнасцяў, магчымасцяў, здольнасцяў (трэба прызнаць, што пэўную дапамогу аказваюць навуковыя кіраўнікі).

Бяда ў тым, што нашы ВНУ, па сутнасці, не арыентуюць студэнтаў на будучую навуковую працу. Ва ўсякім разе, у галіне гісторыі. Інстытуты зарыентаваны на падрыхтоўку ўмоўна-сярэдняга дэнацыяналізаванага настаўніка.

**Наогул, гаворачы на гэтую тэму, трэба не выпускаць з поля зроку ўсю сістэму падрыхтоўкі прафесійных гісторыкаў у рэспубліцы. Варта прыгадаць мізэрную колькасць гадзін, адпушчаных у школе на гісторыю БССР, узровень падручнікаў, якія не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Нагадаю толькі, што на перабудовачнай хвалі Міністэрства асветы БССР прыняло рашэнне аб выданні новага падручніка гісторыі для школы. У 1989 годзе ён, нарэшце, быў выдадзены, але новага ў ім, бадай, толькі прозвішча аднаго з аўтараў: замест Л. С. Абэцэдарскага — Э. М. Загарульскі.**

**У першую чаргу ад даследчыка-грамадазнаўцы патрабавалася лаяльнасць да існуючага ладу, безумоўная падтрымка палітыкі КПСС. Нагадаю ў гэтай сувязі артыкул былога першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава, прысвечанага задачам падрыхтоўкі навуковых кадраў у галіне грамадазнаўства: «К абитуриенту предъявляется однозначно прямолинейное требование — знание предметов. Но ведь это только часть обязательно необходимого! Эрудиция вообще мало что значит, если она не сочетается с высоким уровнем политической зрелости, идейно-нравственного потенциала личности». («Коммунист Белоруссии», 1974, № 5, с. 30). А на адным з пленумаў ЦК КПБ патрабавалася: «...поднять требования при отборе в аспирантуру по общественным наукам, принимать в нее, как правило, лиц, рекомендованных партийными комитетами (з пастановы пленума ЦК КПБ, 29—30.04.1974 г. КПБ в резолюциях... Т. 6. С. 534).**

Узровень развіцця гістарычнай навукі, якасць даследчыцкай працы ў многім залежыць ад інфармацыйнага забеспячэння навукоўцаў. Але, нягледзячы на «рассакрэчванні» некаторых архіўных дакументаў, большасць з іх дасюль не даступныя для гісторыкаў.

У другой палове 80-х гадоў у дзяржаўных архівах рэспублікі знаходзілася звыш 7 млн. 300 тыс. адзінак захоўвання, з якіх больш за 5 млн. 340 тыс. — дакументальныя матэрыялы па гісторыі Савецкай Беларусі. Але палавіна іх рознымі інструкцыямі забаронена для азнаямлення. А, між тым, варта ўспомніць словы У. І. Леніна аб тым, что «Факты, если взять их в целом, в их связи, не только упрямая, но и безусловно доказательная вещь... надо установить такой фундамент из точных и бесспорных фактов, на который можно было бы опереться... Чтобы это был действительно фундамент, необходимо брать не отдельные факты, а всю совокупность относящихся к рассматриваемому вопросу фактов, без единого исключения...» (ПСС. Т. 30. С. 350).

Можна шмат гаварыць пра адсутнасць належнага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння навуковай працы гісторыкаў. Прагрэс, мабыць, закрануў толькі пяро, якое эвалюцыянавала ад гусінага да металічнага.

Тым не менш, на Беларусі за пасляваенныя гады быў падрыхтаваны вялікі атрад гісторыкаў. Цікава параўнаць такія факты: у 60-я гады было абаронена ў галіне гістарычнай навукі 163 дысертацыі, 70-я—285, 1981—1987 гг. — 214 (падкрэслю, што гэтыя лічбы тычацца толькі дысертацый па гісторыі Беларусі і КПБ). А іх навуковая вартасць?

Дарэчы, у нас ніколі не распрацоўваўся крытэрый якасці гістарычных прац, звычайна звярталі ўвагу на іх актуальнасць, колькасць аркушаў і г. д. Напрыклад, пры вылучэнні ў 1978 г. на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР пяцітомнай «Гісторыі БССР» асабісты ўклад аўтараў гэтай працы вызначаўся па тым, хто колькі напісаў, як праводзіў кіраўніцтва аўтарскім калектывам, рэдагаваў рукапісы і г. д. Зыходзячы з гэтага, са 118 чалавек, якія бралі ўдзел у стварэнні гэтай працы, у прэтэндэнтах былі пакінуты толькі 10 чалавек. А вось іншы прыклад. Праца М. Ермаловіча, у якой даецца прынцыпова новая канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, наколькі мне вядома, засталася незаўважанай.

З агульнай колькасці вышэйзгаданых дысертацый каля 90 працэнтаў былі прысвечаны савецкаму перыяду гісторыі рэспублікі. І тут усё было падначалена кан'юнктуры. Напрыклад, у 70-я гады амаль 37 працэнтаў навуковых прац разглядалі розныя аспекты сёмай і восьмай пяцігодак развіцця народнай гаспадаркі, больш за 40 працэнтаў — дзевятай—дзесятай пяцігодкам. Гэтак гісторыкі выконвалі «сацыяльны заказ», звязаны з прыходам новага лідэра краіны.

**Пра многае сведчаць і такія факты: за 27 гадоў (1961—1987 гг.) гісторыка-партыйнай тэматыцы было прысвечана больш як 58 працэнтаў усіх дысертацый. Адпаведна спецыялісты па гісторыі КПСС колькасна пераважалі сярод усіх гісторыкаў рэспублікі. Напрыклад, у Белдзяржуніверсітэце ў 1985/86 навучальным годзе на дзвюх кафедрах гісторыі КПСС працавала 48 работнікаў, у тым ліку 6 дактароў і 33 кандыдаты навук, а на трох кафедрах гісторыі БССР і СССР — адпаведна 33,4 і 26. А вось як планавала Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі патрэбу ў кандыдатах навук: на 1986 г. — 6 па гісторыі КПСС і ніводнага па гісторыі СССР, на 1989 г. — адпаведна 9 і 1.**

**Многія працы, прысвечаныя гісторыі КПСС, былі прасякнуты ідэямі сталінскага «Кароткага курсу». У гістарыяграфіі практыкаваліся выбарачнае цытаванне класікаў, абсалютызацыя партыйных рашэнняў пры поўнай адсутнасці іх крытычнага аналізу, тэндэнцыйны падбор фактаў, аднабаковы падыход да аналізу працэсаў і з'яў, дэкларавалася спрошчанае ўяўленне аб знікненні розніцы паміж горадам і вёскай, аб кіруючай ролі КПСС, аб развітым сацыялізме, як найвышэйшай форме сацыяльнага прагрэсу і г. д... Гістарычная навука была пазбаўлена сваёй выхаваўчай функцыі, у выніку чаго жыхары Беларусі больш ведалі гісторыю многіх іншых краін, чым свайго роднага краю.**

Карані гэтых заган у гістарычнай навуцы (грамадазнаўстве наогул) трэба шукаць у таталітарным рэжыме, які склаўся за гады савецкай улады, у панаванні камуністычнай ідэалогіі. Адным з яе найбольш адыёзных выразнікаў быў гісторык Абэцэдарскі. Але і гэтая фігура, лічу, не адлюстроўвае ўсяго трагізму сітуацыі, у якую трапіла гістарычная навука. Ці не адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі гісторыкі вымушаны былі адны факты замоўчваць, быццам іх і не было, а другія раздзьмухваць, а то і выдумляць, абы яны працавалі на пануючую ідэалогію. Таго з вучоных, хто меў уласную думку, чакалі рэпрэсіі.

Усё гэта з цягам часу і выкрышталізавалася ў паняцце, якое атрымала назву — савецкая гістарычная навука. Вядома, усялякая навука грунтуецца на пэўных метадалагічных прынцыпах, методыцы і г. д. Але ж гэта не азначае, што вучоныя павінны быць пазбаўлены права на самастойную думку, самастойны погляд на гістарычныя факты. Пра навуку ў таталітарнай краіне недвухсэнсоўна выказаўся (маючы на ўвазе канкрэтную сітуацыю ў Германіі 30-х гадоў) вядомы англійскі пісьменнік Джордж Оруэл: «Скажем, нет просто науки. Есть «немецкая наука», «еврейская наука» и т. д. Все такие рассуждения конечной целью имеют оправдание кошмарного порядка, при котором Вождь или правящая клика определяют не только будущее, но и прошлое. Если Вождь заявляет, что события «никогда не было», значит его не было. Если он думает, что дважды два—пять, значит так и есть». Сказана амаль пра нас. І самае сумнае, што таго славутага класавага падыходу да развіцця навукі ў нас не могуць пазбыцца і пасля смерці Сталіна. Скажам, у пятым томе «Истории КПСС» (1970 г.) пад рэдакцыяй акадэміка П. Паспелава сцвярджалася, што, нягледзячы на недахопы, «Краткий курс» адыграў станоўчую ролю ў вывучэнні гісторыі партыі, разгортванні ідэалагічнай работы. Ужо цяпер афіцыйная ідэалогія сустрэла ў штыкі спробы неяк разабрацца з «правай» і «левай» апазіцыяй у КПСС у канцы дваццатых гадоў, рэабілітаваць вядомых паплечнікаў Леніна, якіх знішчыў «правадыр усіх нацый і народаў». Сярод тых, хто навыперадкі імкнуўся выкрыць «рэвізіяністаў» ад гісторыі, былі памочнік Брэжнева В. Голікаў, пра якога нядаўна пісаў у часопісе «Знамя» акадэмік Г. Арбатаў: «...убежденный сталинист В. А. Голиков, мнивший себя «выдающимся марксистом»... малограмотный; он при случае выступал в печати в качестве «теоретика» в области экономики, культуры, идеологии, даже международных дел».

**Аб якім марксісцкім падыходзе да вывучэння праблем гісторыі можна гаварыць, калі тыя, хто турбаваўся за «чысціню» марксізму, забыліся на адзін з ягоных галоўных прынцыпаў: падвяргаць усё сумненню. Яны забыліся і на выказванне Ф. Энгельса, якое сёння гучыць прароча: «Партия... должна находить свои законы лишь в своих живых, постоянно меняющихся потребностях. Если же она предпочитает подчинять эти потребности старым, уже окостеневшим и отмершим решениям, то она сама себе роет могилу».**

Савецкая беларуская гістарычная навука ўнесла свой немалы ўклад і ў барацьбу супраць «нацыяналізму», якая разгарнулася на пачатку 70-х гадоў і вялася ў «лепшых» традыцыях гадоў трыццатых. Праўда, у адрозненне ад сталінскіх часоў, людзей не арыштоўвалі, а толькі звальнялі з працы, часам з «воўчым» білетам, так што ўладкавацца дзе-небудзь было практычна немагчымым. Галоўная віна «нацыяналістаў» была ў тым, што некаторыя з іх упарта размаўлялі па-беларуску, выпісвалі пераважна беларускія газеты, некаторыя крытыкавалі нацыянальную палітыку КПСС. На той час прыпадае вядомая пастанова Прэзідыума АН БССР і парткома Акадэміі навук, дзе гаварылася: «В институтах истории, языкознания, литературы, искусствоведения и фольклора и БелСЭ до недавнего времени работали люди, неправильно трактовавшие национальную политику КПСС и Советского государства». Мне ўдалося неяк выпадкова азнаёміцца з чарнавымі варыянтамі пастаноў Прэзідыума АН БССР. Вось адзін з іх. Ён тычыцца пастановы «О деятельности Института литературы им. Я. Купалы за 1972—1974 гг.» (першы варыянт): «Кандидат филологических наук Прашкович Н. И. в искаженном свете представлял национальную политику КПСС и Советского государства; кандидат филологических наук Зайцев В. И. в своей научной деятельности допускал методологические ошибки...» І Прашковіч, і Зайцаў былі тады звольнены з працы.

На гэтай хвалі асабліва ўмацоўвалася становішча Л. С. Абэцэдарскага як галоўнага неафіцыйнага «інспектара» гістарычнай навукі, заканадаўцы гістарычнай «моды» ў рэспубліцы. Менавіта ў той час выходзіць ягоная падагульняючая выкрывальная брашура «У святле неабвержных фактаў». Менавіта тады была забаронена канферэнцыя па этнагенезе беларусаў. Ідэю правядзення гэтай канферэнцыі крытыкаваў першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, Прэзідыум АН БССР, акадэмічны партком. У прынятай імі пастанове пісалася, што «Институт искусствоведения, этнографии и фольклора и Бюро Отделения общественных наук необоснованно приняли решение о проведении симпозиума по проблеме этногенеза белорусов». Чаму «необоснованно» — прэзідыум і партком не растлумачвалі.

Па сутнасці, усе партыйныя рашэнні таго часу, што тычыліся развіцця навукі, асабліва гістарычнай, грамадазнаўства, патрабавалі ад вучоных выканання так званага сацыяльнага заказу, сфармуляванага ў партыйных дакументах. «Адгукнуўшыся» на пастанову ЦК КПСС «О дальнейшем улучшении идеологической, политико-воспитательной работы» (красавік 1979 г.), бюро Аддзялення грамадскіх навук пастанаўляе ўключыць у тэму «Актуальныя праблемы тэорыі і метадаў ідэалагічнай работы ў рэспубліцы» новыя раздзелы: «Камуністычнае выхаванне работнікаў прамысловасці БССР ва ўмовах развітога сацыялізму», «Развіццё сацыяльнай актыўнасці працаўнікоў сяла на сучасным этапе». У гэтым жа рэчышчы Інстытут мовазнаўства ўзяўся за распрацоўку тэмы «Роль русского языка как языка дружбы, межнационального общения, как фактора прогресса социалистической белорусской нации». Другі прыклад. Па даручэнні рэспубліканскага сходу партыйнага актыву была складзена і з 1981 г. распрацоўвалася праграма ўдасканалення сістэмы ідэйна-палітычнай работы ў БССР, узгодненай з аддзеламі ЦК КПБ. Над ёй працавалі 4 інстытуты Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, 20 кафедр, 2 галіновыя НДІ, 300 навуковых супрацоўнікаў, у тым ліку 30 дактароў і 178 кандыдатаў навук, 30 аспірантаў.

Дарэчы, усе гэтыя навуковыя вышукі ўляталі не ў малую капейчыну. Напрыклад, распрацоўка чатырох тэм па гісторыі савецкага перыяду і адной па «капіталізме» ў Інстытуце гісторыі АН БССР у 1981 годзе абышлася адпаведна ў 202.1 і 72,0 тыс. руб. У 1985 г. на вывучэнне савецкага перыяду было выдаткавана ўжо 226,7 тыс. руб. Да слова мовіць, «сацыяльны заказ» практыкуецца і сёння, у перабудовачны перыяд.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

У адным са сваіх дакладаў у 1990 годзе першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў, называючы некаторыя тэмы па гісторыі КПБ, сказаў, што «гэта наш сацыяльны заказ».

Чытач можа спытаць: няўжо ў беларускай гістарычнай навуцы не было нічога станоўчага? Не, былі і пэўныя дасягненні, скажам, у вывучэнні некаторых пытанняў сацыяльна-эканамічнай гісторыі, народніцкага, сацыял-дэмакратычнага і рабочага рухаў, гісторыі гарадоў, Заходняй Беларусі, утварэння БССР, у некаторых дапаможных дысцыплінах і інш. Але ў дадзеным выпадку я свядома засяродзіў увагу на негатыўных момантах, бо яны, на маю думку, дасюль не даюць спаўна выкарыстаць інтэлектуальны патэнцыял беларускіх гісторыкаў, што, у сваю чаргу, абумоўлівае даволі невысокі ўзровень развіцця гістарычнай навукі ў рэспубліцы.

**Ігар ШАЎЧУК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## КНІГАПІС




І. ЧЫГРЫНАЎ. Плач перапёлкі. Апраўданне крыві. Раманы. Мінск, «Юнацтва», 1990.

**Два найбольш вядомыя раманы Івана Чыгрынава папоўнілі міжвыдавецкую серыю «Школьная бібліятэка». Старшакласнікі змогуць пазнаёміцца з творамі, у якіх праўдзіва адлюстраваны падзеі Вялікай Айчыннай вайны, паказаны не толькі батальныя сцэны, але і чалавек, здавалася б, у зусім не геранічных абставінах.**




Н. ГІЛЕВІЧ. Бяжыць клубок з іголкамі. Загадкі. На ўкраінскай мове. Кіеў, «Вэсэлка», 1990.

**Украінскім немаўлятам прыйдзецца даспадобы гэтая кніжка. Амаль дзвесце загадак, напісаных Нілам Гілевічам і пераўвасобленых па-ўкраінску Тамарай Каламіец, якая, дарэчы, даўно ўносіць плённы ўклад у справу беларуска-ўкраінскага пабрацімства, прыадчыняюць дзверы ў свет, напоўнены таямнічасцю, нечаканасцю. Творы Н. Гілевіча, адрасаваныя дашкольнікам, абуджаюць дзіцячую фантазію, дапамагаюць развіццю лагічнага мыслення. Да ўсяго ж зборнік гэты цудоўна аформлены мастачкай Вольгай Думанскай. Яе малюнкі выкананыя ў традыцыйнай рэалістычнай манеры. Але разам з тым аўтарка не прытрымліваецца звычайнага «фатаграфавання» звяроў, птушак, розных прадметаў, якія называюцца ў адказах да загадак, а надзіва вобразна малюе іх.**




І. НАВУМЕНКА. Апрасцімся, сябры!.. Апавяданні. Серыя «Бібліятэка «Вожыка». Мінск, выдавецтва ЦК КПБ, 1990.

**Змест гэтага зборніка склалі новыя сатырычна-гумарыстычныя творы пісьменніка, з якімі чытач ужо знаёмы па перыядычнаму друку. У апавяданнях «Форум у Дзеркачах», «Доктар навук на хутары», «Не хачу быць каралём!», «Апрасцімся, сябры!..» і іншых І. Навуменка выказвае свае погляды на адмоўныя з'явы ў нашым грамадстве, у тым ліку і прыстасаванства ў творчым жыцці.**

## Віншуем!

**Марыне Барсток—75... Нягледзячы на ўзрост, Марына Мікітаўна па-ранейшаму прымае актыўны ўдзел у літаратурным жыцці, часта выступае ў друку. Ад усяго сэрца віншуем юбілярку з юбілеем і прапаноўваем вашай увазе яе новую рэцэнзію.**



# Першая прыступка

Тры гады таму назад у «ЛіМе» была надрукавана падборка вершаў маладой аўтаркі Людмілы Рублеўскай. А ў мінулым годзе ў бібліятэцы часопіса «Маладосць» выйшаў яе першы зборнік «Крокі па старых лесвіцах», які ўвабраў лепшае і з ранейшых публікацый. Пахвальна такая няспешнасць і крытычны адбор для свайго першынца.

Кніжка, скажам адразу, мае своеадметны накірунак і стыль. Яна пра нашу гісторыю, культуру, яе творцаў і носьбітаў, пра сувязь часоў. Кампазіцыйна зладжаная, цэласная. У ёй няма вершаў выпадковых, адасобленых тэматычна, хаця знойдзем і слабейшыя і супярэчлівыя. Чаго не хапае ў ёй, дык гэта лірызму, асабіста перажытага, убачанага. Звычайна ў маладых аўтараў на першым месцы самараскрыццё, жаданне паспавядацца. А тут імкненне да аб'ектыўнасці, апавядальнасці, сімволіка, прытчавасць. Нават цяжка разгадаць некаторыя алегорыі.

Нездарма ж на старонках кнігі Рублеўскай чытаем такія сентэнцыі: «Жывяць душу таямніца і казка. Неба—бліжэй, а зямля—даражэй». «Быць панад часам—дадзена адзінкам». «Нявечна ўсё, пакуль нявечна памяць». Праз усю кніжку праходзіць думка аб непарыўнай еднасці продкаў і нашчадкаў, непадзельнасці сучаснага і адвечнага.

Самы, бадай, эмацыянальны, прачулы верш у кніжцы «Па шляху продкаў...»

**Беларусь! Душы маёй**
**калыска!**
**Возера лілейнага святла!**
**Да сваёй загубы гэтак блізка**
**Ты яшчэ ніколі не была.**

Людміла Рублеўская выкарыстоўвае розныя жанры фальклору, асабліва паданні з таемным, загадкавым сюжэтам («Змей», «Армагедон», «Згінаюцца дрэвы ад подыху...»). Найбольш нацыянальных элементаў знаходзім у вершах «Плачка», «Ваўкалака», «Грамніцы», «Шляхціц Завальня». Спыняе нашу ўвагу іх добры мастацкі ўзровень. Але хто такая Плачка, якая «шчаслівым плаціць напамінам пра жывое зло»? Яна і міфічная істота, што «плача па жывых, нібы ў ёй усе гняздзяцца душы здраджаных жанчын часоў былых». Яна і наша забруджаная Свіслач, што «Чорнай Плачкай» стогне па начах...».

Астатнія постаці—Ваўкалака, Дамавік, Лазнік—з даўняй пары прыжыліся ў беларускіх казках. Твор «Шляхціц Завальня» нясе ў сабе большае абагульненне. Ён навеяны чатырохтомным фальклорным зборнікам Яна Баршчэўскага, а хутчэй за ўсё ўрыўкам У. Караткевіча з кнігі «Зямля пад белымі крыламі» пра гэты зборнік.

Тут і зварот да вандроўнікаў, якія ў завіруху знаходзяць прытулак і цяпло на хутары шляхціца, тут і запалены на акне агеньчык як знак гасціннасці. Між іншым, знойдзены аўтаркай цікавы вобраз: «І свечка на акне варушыць сваю маленькую далонь».

І ўсё ж пры такім падыходзе ілюстрацыйнасць непазбежная, як у фальклорнай, так і ў гістарычнай тэме.

Перад намі «Балада пра Франца Савіча», беларускага паэта, публіцыста і грамадскага дзеяча дзевятнаццатага стагоддзя. Лёс яго трагічны. Яго арыштоўвалі, ссылалі ў салдаты, некалькі разоў уцякаў. Жыў на Украіне пад чужым імем, лячыў сялян.

Аўтарка знайшла ўдалую форму дыялога з героем, каб пачуць яго голас, даведацца пра шчырае жаданне вярнуцца на бацькаўшчыну.

**...А зіма сувоі сцеле,**
**Сыпле бель на галаву.**
**— Як жывеце, доктар**
**Гельгег?**
**— А хіба я тут жыву?**

У аснове балад пра Франца Савіча і Міхала Падабедава рэальныя факты іх біяграфій, драматызм лёсу. Яны маюць выразна акрэслены сюжэт.

Крытычныя ноты чуюцца ў адрас ліхвяроў друкара Івана Фёдарава, якія зляцеліся дзяліць яго спадчыну.

**Панове, ну нашто друкарня**
**вам?**
**Вы ж і чытаць не ўмееце,**
**напэўна!**
**Ды кожны нешта цягне:**
**«Не аддам!»**
**І літары ссыпае па кішэнях.**

Пра каханне Адама Міцкевіча, пра Максіма Багдановіча, хлопчыка, што ў зямлі чужой зарыты «з лірай залатою на грудзях...». Сказана фрагментарна і цьмяна.

У апошнім («Паэт і ўлада») надта далёкае збліжэнне зусім розных рэчаў («...І Багрым з ружжом па пляцы крочыць, і нацдэмаў сцеражэ Гулаг»).

Як філасофскія задуманы вершы «Немата» і «Дарога ў нікуды».

Самаўпэўненая, бяздумная дарога хвалілася, гучна крычала, што ведае, куды весці. І людзі пайшлі па ёй. Але паступова яна стала цішэць, траціць свой ранейшы імпэт і ўрэшце зусім змоўкла. Усе ўбачылі падман, туман вакол і пустэчу. Вельмі несуцяшальны вывад. Выходзіць, дарога падвяла, ашукала, людзі засталіся без веры. А ў вершы «Немата» змрочная будучыня прадвяшчаецца ўсёй планеце. Змаўкаюць паэты, музыкі, птушкі, старыя млыны — усё жывое ў прыродзе. Штучнае, надуманае ўступае ў свае правы, сее расчараванне. І толькі адно не дае зусім зняверыцца — «Кахання зямнога зіхоткі прамень». «Чорная быль» — адзіны верш, дзе хаця мелькам гаворыцца пра каханне. Але і тут аўтарка не забывае пра чорнае сонца, якога ўсё болей і болей, асабліва цяпер, у цяжкі, драматычны для нашага народа час.

Людміла Рублеўская сумуе па жывой, сапраўднай Беларусі, прыкметамі якой лічыць млыны, старыя могілкі, храмы, якія трэба адбудоўваць, а не знішчаць. Цяпер жа, на яе думку, многа штучнага, тэатралізаванага, толькі дзе-нідзе прамільгне непаўторнае, сваё.

**...пакуль зубры блукаюць**
**між ялін,**
**І недзе на сямі вятрах**
**рыпіць вятрак,**
**І недзе водзяць па дварах**
**казу і Смех,**
**Не скончыцца мая**
**жывая Беларусь...**

У тым жа годзе выйшаў і другі невялічкі зборнік Людмілы Рублеўскай (на ратапрынце) «Адукацыя». Тэматычна ён прымыкае да асноўнага, але больш агульны. Звяртаюць на сябе ўвагу два вершы: «Адукацыя» і «Слова Камілы Марцінкевіч». У першым суровае абвінавачанне старэйшых, настаўнікаў моладзі, якія калечылі юныя душы.

**Нам ілгалі бессаромна доўга,**
**Хітра і бязлітасна манілі.**
**Слепату душы лічылі доўгам,**
**Тупасць — дабрачыннасцю**
**лічылі.**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**А былы настаўнік ці**
**прафесар**
**Перад намі не апусціць**
**вочы—**
**Ён маніў таму, што быў**
**«пад прэсам»,**
**А цяпер таксама праўды**
**хоча.**

Прачытаны абодва зборнікі Людмілы Рублеўскай. Асвоена першая прыступка яе творчай лесвіцы. Аўтарцы трэба рабіць новыя крокі, абапіраючыся на лепшае, што ёсць у гэтых кніжках.

**М. БАРСТОК.**

---

Людміла Рублеўская. Крокі па старых лесвіцах. Вершы. Бібліятэка часопіса «Маладосць», Мінск, 1990.

# «ПА-НОВАМУ ЗІРНУЦЬ НА СВАЁ ЖЫЦЦЁ»

Матэрыялы, сабраныя пад вокладкай з выявай зламанага зялёнага парастка і аб'яднаныя экалагічнай праблематыкай, разнастайныя па стылі і жанры, што непазбежна пры выданні падобных зборнікаў. Перад складальнікам стаяла двайная задача — адабраць матэрыялы па тэме і затым размясціць іх у пэўным парадку, каб кніга набыла цэласнасць і скразны сюжэт. На мой погляд, Тамара Чабан паспяхова справілася са сваёй задачай.

Вядома, што рускія пісьменнікі XIX ст. будзілі народ вечнымі пытаннямі: «Што рабіць?» і «Хто вінаваты?». Алесь Адамовіч у сваёй публікацыі задаецца пытаннямі «Як гэта магло здарыцца?» і «Ці можа такое паўтарыцца?» Мы памятаем, што Алесь Міхайлавіч адным з першых прыцягнуў увагу грамадскасці да таго факта, што на долю Беларусі ў 1986 г. прыйшлося звыш 70 працэнтаў радыеактыўных ападкаў, ён першым спрабаваў прабіць шлях да праўды на самым высокім узроўні. Не будзем несправядлівымі да ўсіх, хто меў прамое або ўскоснае дачыненне да катастрофы, — паняцці пра гонар і сумленне атрафіраваліся не ва ўсіх. Сумны прыклад акадэміка Лягасава, подзвіг пажарных на палаючым рэактары, мужнасць дактароў, якія ратавалі людзей, усведамляючы небяспеку, у тым пераконваюць. На жаль, штосьці не чуваць публічнага пакаяння, прызнання сваёй віны і некампетэнтнасці з боку асоб, што прымалі ўдзел у праектаванні і эксплуатацыі АЭС, а таксама прылучыліся да ўтойвання інфармацыі ад выбуху ў самыя першыя, самыя небяспечныя дні. У якасці каментарыя к даследаванню А. Адамовіча (інакш яго не назавеш) хочацца прывесці словы К. Ларэнца: «Можна лічыць псіхічным захворваннем, калектыўным зацменнем розуму той факт, што людзі, ап'яненыя сваімі тэхналагічнымі перамогамі, робяць глупства прыкладваць тэхнічныя сродкі да жывой прыроды, разбураючы такім чынам асновы свайго ўласнага жыцця. Але калі яны настойваюць на гэтым, ведаючы, што адбіраюць у сваіх унукаў ужо не толькі мора, нават і кісларод, то гэта болей, чым грэх, гэта злачынства».

Сімптаматычна, што начальнік змены на АЭС успамінаў, ужо ў больніцы, што ў многіх у галовах адразу пасля аварыі круцілася слова «дыверсія», бо калі нічога не можаш зразумець і растлумачыць, то на самога д'ябла падумаеш. Як высветлілася, «д'ябал» меў зусім рэальных прадстаўнікоў у асобе бюракратычнага апарату, узбагачанага новымі прыёмамі прыстасавання да абставін, не мяняючыся па сутнасці і галоўнай мэтай маючы самазахаванне. Гэта прадбачыў яшчэ Леў Талстой, які пісаў: «Извратить же человеческое устройство всегда найдутся тысячи способов у людей, руководствующихся в жизни только заботой о своем личном благополучии». Да адказнасці і сумленнасці «ўладу маючых» і заклікае ў першую чаргу Алесь Адамовіч.

Іншая кропка адліку ў наступных публікацыях — «Запіскі аб радыяцыі» Барыса Сачанкі і «Сенакос у канцы красавіка» Віктара Казько. Дзённікавыя запіскі Б. Сачанкі пакідаюць асабліва моцнае ўражанне дзякуючы гранічнай шчырасці і немудрагелістасці. Гора людское, выказанае жывым словам, не можа не кранаць.

«Сядзім з маці, гамонім.

— Нешта ж часта пачалі паміраць у нас людзі,—уздыхае, прызнаецца, маці. — Во ходзіць-ходзіць чалавек, потым за грудзі схопіцца... Брык — і няма...

— І хто найчасцей памірае? — пытаю я. — Старыя, маладыя?

— Не, во такога веку, як ты. Мужчыны. Тыя, хто за каровамі ходзіць, у лесе працуе ці на трактары...

І маці бярэцца пералічваць, хто за апошні час памёр. Называе імёны, прозвішчы...»

Пра самае страшнае гаворыцца проста, без надрыву, з «годнасцю пакуты». Аўтар, здаецца, ужо не шукае выхаду, ён канстатуе духоўны і фізічны стан сваіх аднавяскоўцаў — і ўзвышаецца да трагедыі. Кож-

---

«Зона бяды». Пісьменнікі, вучоныя, публіцысты пра экалогію. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

# ВЯРТАННЕ ПРАЗ ПАКУТЫ

«Народная газета» і часопіс «Полымя» нядаўна пазнаёмілі чытачоў з дакументальнай аповесцю «У кіпцюрах ГПУ» беларускага драматурга Францішка Аляхновіча. У газеце аповесць ішла пад рубрыкай «Друкуецца ўпершыню». Вось за гэта і ўхапілася «ўсебаковая» «7 дней», называючы Ф. Аляхновіча «вядомым буржуазным палітычным дзеячам і літаратарам». Каму «вядомым», калі яго творы забаронены, забаранялася нават называць прозвішча пісьменніка? Вядомым хіба рэдакцыі тыднёвіка, бо мае доступ да сакрэтных архіваў. Дзеля «добрай» справы не пашкадавала вялікі кавалак месца на паласе, дала фотамантаж з «Менскай газэты», дзе ў 1941 годзе друкавалася гэтая аповесць.

Па «семидневке» выходзіць, што Францішак Аляхновіч, якога ў 1926 годзе заманілі на культурную працу ў Мінск, нявінна адпакутаваўшы сем гадоў на Салаўках, не павінен быў аб гэтым праўдзіва пісаць, каб не стаць «буржуазным дзеячам». Дзіўная логіка. А што «Менская газэта» змясціла дакументальную аповесць, няма нічога дзіўнага. Кожны варожы бок (маю на ўвазе нямецкіх захопнікаў) стараецца на чым-небудзь зламіць свайго праціўніка, падарваць яго аўтарытэт у вачах грамадскасці па магчымасці праўдзівымі фактамі. Аднак самі факты ад гэтага не перастаюць быць праўдзівымі. Міжволі прыгадваецца польская прымаўка «Жэбы кузка не скакала, тобы нужкі не зламала». Інакш кажучы, каб ГПУ не мучыла ў канцлагерах нявіннага чалавека, то ён не пісаў бы ўспамінаў пра сваю няволю.

Іншая справа, калі ў прапагандзе дапускаецца фальсіфікацыя. Для прыкладу згадаю катынскія расстрэлы афіцэраў Войска Польскага, у тым ліку і беларусаў. Доўгі час афіцыйная савецкая прапаганда ўнушала сваім грамадзянам, што зверскую расправу ў Катыні ўчынілі фашысты. І мы паверылі, бо бачылі шматлікія злачынствы акупантаў у іншых месцах. А ў сапраўднасці, як цяпер вядома, злачынства зрабілі войскі НКВД. Чаму «7 дней» пра гэта не дае вялікі фотамантаж?

Вернемся, аднак, да Аляхновіча, да яго аповесці. Магу шчыра зазначыць, што дакументальны твор Ф. Аляхновіча прачытаў я ўпершыню ў «Народнай газеце». А паколькі раней давялося чытаць у «Новом мире» «Архіпелаг ГУЛАГ» А. Салжаніцына, то таксама магу сказаць некалькі слоў. Твор рускага пісьменніка, які доўга збіраў і шырока выкарыстаў матэрыял аб сталінскім генацыдзе, вызначаецца палітычнай накіраванасцю, падмацоўваецца нават цытатамі з Леніна. У нататках беларускага літаратара падаюцца амаль «голыя» факты, не называюцца праўдзівыя прозвішчы, каб не пашкодзіць зняволеным, не адчуваецца ніякай нацяжкі. «7 дней» баіцца ганьбіць жывога Аляксандра Салжаніцына, а на мёртвага Францішка Аляхновіча можна валіць, што хочаш, — не ўстане, не дасць адпор.

Францішак Аляхновіч быў вельмі папулярны ў Заходняй Беларусі як пісьменнік-драматург. Вясковыя самадзейнікі рэдка калі абыходзіліся без твораў гэтага аўтара. Яшчэ не выветрылася з памяці, як моладзь вёскі Чамяры, што на Слонімшчыне, ставіла спектаклі па творах «Калісь», «Дзядзька Якуб», «Заручыны Паўлінкі», «Чорт і баба», «Пан міністр» і інш. На гэтыя прадстаўленні прыходзілі людзі з навакольных вёсак і часам не маглі памясціцца ў гумне.

Асабліва цяжка было атрымаць у павятовага старасты дазвол на спектакль па п'есе «Калісь», паколькі гэты твор паказваў рэвалюцыйныя падзеі. Не раз ад уладаў чулі адказ: «То большэвіцка пропаганда». А тут «7 дней» дае іншую ацэнку — «буржуазный политический деятель и литератор». Дзе ж праўда?

Яшчэ не хапае аднаго ярлыка Аляхновічу — «националист». А можна прышыць, прачытаўшы камедыю «Пан міністр». Аўтар паказвае, як нядошлы «беларускі» дзеяч, рыхтуючыся да сваёй пасады, вывучае беларускую мову. І калі маладая настаўніца, не ведаючы, што ягоныя мары стаць міністрам праваліліся, гаворыць, што ў слове «любоў» літара «у» пішацца з хвосцікам, пан міністр ускіпеў: «Гэта чорт з хвосьцікам!». Паколькі ў цяперашніх міністраў лягчэйшы лёс — неабавязкова вучыць беларускую мову, то Аляхновічу яшчэ адзін ярлык дадаць не цяжка.

Трэба сказаць, што пісьменніцкі аўтарытэт Францішка Аляхновіча быў да некаторай ступені падарваны публікацыяй аповесці «У кіпцюрах ГПУ» ў польскай віленскай прэсе. Камуністычная прапаганда ацаніла твор, як паклёп на Краіну Саветаў (а мы верылі ў Савецкі Саюз, як у Бога). Нічога дзіўнага, што апошнім часам, хоць балюча, павінна была адбыцца палітычная пераарыентацыя, бо адкрыліся народу жудасныя факты. Цяпер мы ведаем, што такое сталіншчына, берыеўшчына, ГУЛАГ, Салаўкі, Курапаты... І хто б пра гэта ні пісаў, «буржуазны» ці камуністычны літаратар — генацыд ёсць генацыд, з якога б боку ён ні праяўляўся і чым бы ні прыкрываўся. Францішак Аляхновіч паверыў у Савецкі Саюз і паехаў туды працаваць — пасадзілі. А што было б, каб, напрыклад, Іван Бунін вярнуўся ў СССР?

Дзякуй «Народнай газеце» і «Полымю» за публікацыю, за вяртанне яшчэ аднаго пісьменніка да свайго народа і ў гісторыю беларускай літаратуры.

**Анатоль ІВЕРС.**

г. Слонім.

# НЕАБХОДНЫЯ ЎДАКЛАДНЕННІ

У наш час, бадай, як ніколі раней, узрасла цікавасць да мінулага — гістарычных падзей, грамадскага жыцця, культуры, у тым ліку і літаратуры. Прыцягваюць увагу ўспаміны нашых старэйшых пісьменнікаў аб пражытых гадах, таварышах па літаратурным цэху. З цікавасцю чытаецца артыкул Я. Скрыгана «Сяргей Фамін і яшчэ нехта». Ён друкаваўся ў перыёдыцы, увайшоў у кнігу «Некалькі хвілін чужога жыцця» («Мастацкая літаратура», 1990). Тут успамін галоўным чынам пра С. Фаміна — студэнта універсітэта. Так, сапраўды, у 1927 — 1930 гадах паэт вучыўся ў БДУ. Дакладна абрысаваны партрэт юнака, яго адзенне, прычоска. Пададзены трапныя дэталі: «зухавата адкінутая на самую патыліцу кепка так, што відзён быў толькі задраны ў неба казырок; загарэлы ціхі твар; нясмеласць, нават нейкая крыўда ў вачах».

«Праз колькі немалога часу» Я. Скрыган даведваецца, што С. Фамін працуе ў Горках. Ён рашае наведаць паэта, а заадно і свайго земляка Ю. Гаўрука. «Немалы час» — гэта крыху нацяжка, бо наведванне магло адбыцца не больш як праз два гады: С. Фамін трапіў у Горкі пасля заканчэння універсітэта ў 1930 г., а Ю. Гаўрук працаваў там па 1931 год.

У Горках мемуарыст сустрэў Сяргея не аднаго. Яшчэ па універсітэце Я. Скрыган памятаў «дзяўчыну стройнай постаці, з адухоўленым тварам», якая заўсёды з нецярпеннем чакала Сяргея ля ўваходу. Цяпер жа «ад колішняй красы мала што асталося... А ў абліччы нейкі стомлены спакой і прыцішанасць». Яна скардзіцца на мужа: «Нейкі ён раскіданы, усяму адкрыты, вечна спяшаецца некуды паспець... Гэтак і ў вершах, гэтак і ў рабоце. Гэтак і ў сям'і. Праўда, мы яе і не маем, я дзяцей нават не асмелілася заводзіць».

Гэтае апошняе «прызнанне» вельмі здзіўляе. Так, жонкай Сяргея стала яго аднакурсніца гамяльчанка Марыя Якаўлеўна Вашчылка. Разам яны закончылі вучобу, паехалі на працу. Але ж... Паехалі да месца працы ўтраіх, з дачкой Інай, 1928 года нараджэння. А праз тры гады ў іх з'явілася другая дачка — Аліна. Так што летам 1931 г. Марыя Якаўлеўна магла быць маці дзвюх дачок ці, у крайнім выпадку, чакаць папаўнення сям'і. Між іншым, праз тры гады сям'я яшчэ раз папоўнілася: нарадзіўся сын Аляксандр.

Варта яшчэ не абысці ўвагай, што Марыя Якаўлеўна была клапатлівай і любячай маці. Як магла, ратавала дзяцей у трагічны час пасля арышту Сяргея. Рашуча адхіліла прапанову адмовіцца ад мужа

Успаміны Я. Скрыган напісаў амаль праз паўвека пасля той апошняй сустрэчы. Думаецца, тут памяць крыху падвяла пісьменніка.

**Яшчэ больш здзіўляюць запіскі С. Грахоўскага адносна даты смерці С. Фаміна. У артыкуле «Як знікалі паэты» («Звязда» за 6 верасня 1989 г.) ён сцвярджаў, што дата смерці паэта — 1941 г. — фальсіфікаваная, што яго застрэлілі раней. Хоць, па ўсім відаць, аўтар не ведае даты арышту С. Фаміна. Тады ж, 20 кастрычніка, «Звязда» надрукавала ўдакладненне, што на пачатку Вялікай Айчыннай вайны паэт быў жывы. Расказваў чалавек, які быў з Сяргеем у адным лагеры. Але С. Грахоўскі не прыслухаўся да слушных довадаў і ў перапрацаваным артыкуле ў «Дзень паэзіі-90» катэгарычна называе дату ў біяграфічных даведках пра С. Фаміна ашуканскай. Праўда, доказаў ніякіх не прыводзіцца, усё трымаецца на эмоцыях.**

**Вядома, у той час маглі расстраляць і раней, а потым прывесці любую дату. Такое здаралася неаднойчы. Але ў 1935 г., здаецца, яшчэ не існавала трагічна вядомых Курапатаў. Ды асноўнае не ў гэтым.**

Вось афіцыйныя паведамленні КДБ БССР і пракуратуры Комі АССР. Арыштаваны С. Фамін быў 4 студзеня 1935 г. у Горках. 28 красавіка таго ж года Спецыяльнай калегіяй Вярхоўнага Суда БССР прыгаворани да расстрэлу. Пасля апеляцыі Вярхоўны Суд СССР расстрэл замяніў на 10 год пазбаўлення волі з далейшым пазбаўленнем правоў на 5 год.

Не паверым афіцыёзу? Тады сведчанні родных і... самога Сяргея.

Яго сястра паведамляе, што брат пасля суда нейкі час знаходзіўся ў Ладзейным Полі ў перасыльнай турме. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Адтуль зрэдку прыходзілі ад яго родным паштоўкі, пісьмы. Тое-сёе захавалася. Вось напісаная Сяргеем 7 сакавіка 1939 г. паштоўка з чатырма штэмпелямі, адрасаваная маці. Захаваліся чатыры старонкі вялікага васьмістаронкавага пісьма ад 18 мая 1941 г., якое нельга чытаць без хвалявання і якое заслугоўвае публікацыі. У гэтым пісьме, дарэчы, ёсць радкі, адрасаваныя кожнаму з траіх дзяцей паасобку.

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны распачалася кампанія па выяўленні «ворагаў народа» сярод раней аб'яўленых такімі «ворагамі». І зноў паведамленне пракуратуры з Сыктыўкара. 29 верасня — 2 кастрычніка 1941 г. над групай з дзевяці чалавек, у якую ўваходзіў і С. Фамін, адбыўся другі суд. Абвінавачанні тыя ж самыя: контррэвалюцыйная дзейнасць, падрыхтоўка паўстання. Ранейшы і прыгавор — расстрэл. І нарэшце не прызначаны для староннягa вока апошні запіс у асабовай справе: прыгавор прыведзены ў выкананне 4 снежня 1941 г. у 01 гадз. 06 хвілін.

Так што ні фальсіфікацыі, ні ашуканства ў даным канкрэтным выпадку няма.

Гэта добра, што з'яўляюцца ўспаміны пра бязвінна загінуўшых. Але тут неабходны такт, абачлівасць, дакладнасць. Інакш да такой высакароднай справы траціцца давер.

У красавіку гэтага года спаўняецца 85 год з дня нараджэння С. Фаміна, паэта выключнай шчырасці і чысціні помыслаў.

**Г. ЮРЧАНКА.**



С. ФАМІН з жонкай (крайняя злева) і аднакурсніцамі.

---

**ны вобраз у запісках — як тая гарачая часцінка, пра якую піша аўтар, — ён прапякае наскрозь...**

**Віктар Казько ў сваім нарысе перш за ўсё мастак. І хоць мастацкі пачатак тут не заўсёды арганічна спалучаецца з публіцыстычным, пісьменнік усё ж знаходзіць патрэбны тон, выходзіць на значныя абагульненні. «Раненыя людзі ішлі па смяротна знявечанай, скалечанай на стагоддзі зямлі. І ўсё, з чым сутыкалася вока, было ў іх веданні і волыце і ўжо адчужана і адарвана, адабрана ад іх, ад чалавека. І на роднай праматухне-Зямлі сам чалавек здаваўся сабе іншапланецянінам».**

**Чарнобыльская бяда праявіла нашы сацыяльныя беды, як павелічальнае шкло. Немагчыма без болю і скрухі чытаць эпізод пра тое, як ад прыезджых людзей хаваліся старыя, што без дазволу вярнуліся на заражаныя землі.**

**«— Самасёлы. Партызаны, — растлумачыў гаспадар. — Во дзе слёзы, во дзе адно толькі гора. Сацыяльна безабаронныя больш чым дзеці».**

**Прырода — ахвяра, у нашым выпадку справакаванай чалавечымі рукамі катастрофы. А чалавек мае ўсе ролевыя функцыі — ён і віноўнік, ён і ахвяра, ён і выратавальнік. Займальней чым дэтэктыў чытаюцца нататкі Роберта Пітэра Гейла і Томаса Гаўзера, выратавальнікаў па самой прафесіі і па духоўным складзе. Напісаныя ў форме дзённіка, яны здзіўляюць і захапляюць дзелавітасцю, сабранасцю і кампетэнтнасцю аўтараў. Не могуць не выклікаць нашай павагі ўпартасць і цярплівасць, праяўленыя міжнароднай групай дактароў, якія прыехалі ў Маскву, каб палегчыць пакуты і паспрабаваць выратаваць людзей. Запіскі доктара Гейла асабліва цікава чытаць таму, што з дапамогай «Апошняга папярэджання» бачыш наша жыццё збоку, чужымі вачамі, і абсурднасць гэтага жыцця робіцца відавочнай. Чаго варты эпізод пераня сення цэнтрыфугі з сёмага паверха на пяты, прычым вырашэнне пытання залежала ад людзей, не маючых уяўлення ні аб стэрыльнасці, ні аб тым, што такое цэнтрыфуга.**

**Доктар Гейл аддае належнае самаадданасці і прафесіяналізму нашых спецыялістаў, даючы, напрыклад, высокую ацэнку доктару Воранаву. Аднак колькасць недарэчнасцей і перашкод, з якімі сутыкаліся ўрачы, адзінай мэтай якіх было дапамагчы пацярпеўшым,—не паддаецца пералічэнню. І хоць пункт погляду аўтараў запісак не заўсёды супадае з нашым, прачытаць іх рэпартаж карысна.**

**Пасля тэкста густога, шчыльнага, насычанага фактамі і лічбамі, складальніца змясціла вершы — ужо сам выгляд разраджанай прасторы паэтычных старонак спрые пераключэнню. Кожны з паэтаў, чые вершы надрукаваны ў зборніку «Зона бяды», уносіць свой боль, сваё светаадчуванне ў агульную танальнасць кнігі, аднак няма магчымасці спыніцца на вершах падрабязней. Яны да месца ў дадзеным зборніку, хоць і не вызначаюць яго каштоўнасць.**

**Яшчэ адзін вялікі раздзел прысвечаны экалагічным праблемам Беларусі, узятым больш шырока і не толькі ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай. У ім большасць з нарысаў тычыцца меліярацыі, экалогіі вады і паветра. Нельга не адзначыць пранікнёныя нататкі Анатоля Казловіча, у якіх прасочваецца прамая сувязь паміж чыстай крынічнай мовай і некранутай прыгажосцю прыроды. Строга навуковым падыходам і аргументаванасцю прываблівае артыкул вучоных — Р. Гарэцкага і А. Кудзельскага. Закончыць гэтыя накіды хацелася б, перафразіруючы доктара Гейла: «Зона бяды» ўзбагаціла мяне новымі ведамі пра свет, у якім мы жывём, змусіла па-новаму зірнуць на сваё жыццё і, пераасэнсаваўшы яго, лепш спазнаць сябе.**

**Люба ТУРБІНА.**

Адам ГЛОБУС

# Крок у Койданава

ЭСЭ

## 1. Грым

Не звязвайся! Папярэджвалі разумныя людзі. Не звязвайся з тэлебачаннем.

Але разумныя людзі ўсё ж памыліліся. Не шкадую я тых дзён, што прапрацаваў над перадачаю «Крок». І вось чаму... Па-першае: мне давалі тэхніку — рафік, камера, студыя, мантажная... Два разы давалі на рэалізацыю маёй ідэі. Можа, мала два разы? А другім жа зусім не даюць, вось Анатолю Сысу ці Анатолю Сідарэвічу з Сяргеем Дубаўцом, напрыклад. Па-другое: мяне ў трох перадачах выпускалі (не трэба смяяцца, гэта тэлевізійны слэнг — выпускалі) у прамы эфір, і можна было сказаць тое, што думаеш. Ну і па-трэцяе: плацілі, 30—40 рублёў за перадачу, пасля якой мой загрыміраваны твар рабіўся падобны да муміі не скажу якой. Адно ўдакладню: грыміраваў мяне дзядзька Саша — вялікі майстар рэстаўрацыйнай справы. Ён нават аднаўляў твар Пятра Міронавіча Машэрава ў труне, а гэта вам не абы-што, бо пазнавалі ж Машэрава пасля аўтакатастрофы не па твары, а па вопратцы. Я, вядома, не Машэраў, але і мяне дзядзька Саша загрыміроўваў як мае быць. Мяне і трэба грыміраваць. Бо вушы чырванеюць, не ад сораму, а ад лямпаў асвятляльных. Як навядуць на цябе, як утвораць інсаляцыю — паніпічаць усе цені, як зробяць пекла, дык вушы не вытрымліваюць — пачынаюць гарэць. А з чырвонымі вушамі ў прамым эфіры рабіць няма чаго. Усе ж падумаюць, што вярзу лухту, і таму замест вушэй у мяне сцягі чырвоныя. Вось і кажу я перад перадачаю: «Дзядзька Саша, загрымíруйце мне вушы, зрабіце іх белымі». І майстра-грымёр робіць і расказвае показкі пра вядомых людзей рэспублікі. «Выходзіць на сцэну артыстка Александроўская, ёй тады год шэсцьдзесят было, выходзіць і заспявае: **«Помню я еще молодушкой была...»** А з залы голас: «Ну і памяць!» Вушы мае скачуць ад смеху і з чырвоных робяцца бел-чырвона-белымі, а потым і зусім бялюткімі. І можна працаваць і не баяцца нават падманваць даверлівых гледачоў...

## 2. Вар'ятня

Перадача «Крок» пачынаецца з пошуку сюжэтаў. Асабіста я іх шукаў на мінскіх вуліцах. Шпацырую з Уладзімірам Сцяпанам і прапаноўваю — давай здымем насценныя надпісы і пракаменцуем, што ранай на сценах крэмзалі: «АС/ДС», «Metalica», «Д. МН.», пазней пайшло: «Краіна ў кратах!», «Жыве Беларусь!» (А ў дзвары маіх бацькоў—«Жiве Беларусь!»), БНФ, «Горби, вон из Кремля!», «Ельцина к стенке!», «БНФ—Баку», нарэшце з'явілася: «Сала», «Хлеб», «Мяса», ну і апагей усяго манументальнага сценапісу: «Цой», «Цой жыв!»... Сцяпан падводзіць рысу: «Можна зняць сюжэт на адну хвіліну». «І кліп з Цоем прылепім,— дадаю я,— атрымаецца пяць, а гэта ўжо хлеб».

Шпацыруем далей, п'ём каву. Сцяпан скардзіцца, што «Крок» не пускаюць у вар'ятню, а вар'ятня зараз на хвалі — «Урачы шкоднікі», «Палітычныя вязні ў кашулях з трохметровымі рукавамі», «Рэпрэсії і псіхіятры»... І ў мяне з'яўляецца ідэя!

Ёсць адна катэгорыя людзей, якія, нават калі трапляюць у вар'ятню, у турму, у войска, за мяжу, на завод, у калгас — куды заўгодна, пэўныя фантасты сцвярджаюць, што нават у другім часе і на другіх планетах, яны застаюцца нязменнымі. Гэтыя людзі належаць, як пісаў педант Генрых Бёль, да апошняй на зямлі вольнай прафесіі. А зваць іх проста — мастакі. Вось пра мастакоў у вар'ятні і вырашана было зняць сюжэт. Мой першы сюжэт. Вядома, што сумесна са Сцяпанам, з рэжысёрам Рэвунковым, з апаратурам, з гукаапаратарам, з шафёрам і гэтак далей, бо БТ ёсць БТ — завод, калгас, войска і нейкім чынам вар'ятня. Але ж на кожную турму павінен быць мастак.

Ад знаёмых я ведаў, што ў сценах мне патрэбнай клінікі ёсць урач, які сімпатызуе творчым асобам, што ён збірае калекцыю з твораў сваіх пацыентаў. Усе арганізацыйныя пакуты ўзяў на сябе Сцяпан. І нарэшце рафік з брыгадай тэле-экстрэмістаў (так нас пазней назваў доктар Круглянскі — прыхільнік творчасці **инакомыслящих**), уехаў на тэрыторыю лякарні...

...Пад час усяго інтэрв'ю над намі стаяў, склаўшы рукі на грудзях, галоўны ўрач. Можа, у яго за гады працы замацаваўся такі добразычлівы і разам з гэтым халодны, як сталь на марозе, выраз твару. Не ведаю. Але працавала пад яговым наглядам было няўтульна. Зрэшты, пра якую ўтульнасць можна казаць у лякарні. «У нашых пацыентаў не павінна з'яўляцца станоўчых рэакцый на бальніцу!» — зазначыў той самы Круглянскі. Тут можна не хваляваіцца, гэты пастулат відавочна выконваецца. Але не дзеля пастулатаў я ехаў, а дзеля таго станоўчага, што ёсць у адносінах паміж псіхіятрамі і мастакамі. Не ведаю, ці пагодзяцца са мной дактары, але станоўчага шмат.

Толькі пачынаюцца адносіны, назавём умоўна «мастак—лекар», не тады, калі дарослы творца заходзіць у прыёмны кабінет са скаргаю на здароўе, а ў дзяцінстве.

Тлумачу: каб стаць прафесійным мастаком, неабходна пачынаць рэгулярныя заняткі як мінімум у 5—6 класах, а то і раней, потым скончыць вучэльню і інстытут. Асабіста я не сустракаў на Беларусі прыстойнага мастака, які б не прайшоў гэтае школы тэрмінам у 10—14 гадоў. І такі доўгі час ён праводзіць у даволі грунтоўна ізаляваным ад большай часткі грамадства асяроддзі, дзе свае законы, свае каштоўнасці, свой кодэкс гонару. Напрыклад: вы будзеце тлумачыць мастаку, што карціна добрая толькі тады, калі за яе плацяць вялікія грошы, а ён вас не зразумее, як не знойдзеце паразумення і ў пытаннях партыйнасці, дзяржавы, войска... І не бачу нічога дзіўнага,бо як толькі грамадства заўважае, што чалавек малюе, дык першае, што робіць — вылучае яго і выштурхоўвае за межы сваіх іерархічных структур. У дзяцінстве гэта даволі драматычны працэс. Але ў юнацтве і маладосці вельмі прывабны. Быць мастаком, як музыкам і паэтам, досыць прэстыжна сярод моладзі, але насіць званне «мастак» раўназначна, ці амаль тое самае, што — дзівак, псіх, шыз, а калі абагульніць,— ненармальны. Вось таму тэлеінтэрв'ю з Круглянскім будавалася на слове «норма». Для большасці слова «норма» мае станоўчы сэнс, для мастакоў жа норма раўназначна творчай нялдатнасці, смерці. Круглянскі паказваў перад камерай малюнкі і карціны, мы са Сцяпанам задавалі пытанні:

— Ці многа мастакоў звяртаюцца па дапамогу ў вашу лякарню?

— Як вы думаеце, мастак сам ставіць дыягназ, што ён хворы, ці гэта робіцца ў бальніцы?

— Ці зможаце вы па малюнках вызначыць: хворы чалавек ці не?

— Ці згодны вы, што ў асобныя перыяды дзяржаве выгодна называць пэўных мастакоў хворымі людзьмі, а пэўныя перыяды ў мастацтве праявай пашкоджанага розуму?

Круглянскі сказаў, што мастакі трапляюць у лякарню нячаста і зазвычай па ўласным жаданні. Па малюнках амаль немагчыма вызначыць — хворы стваральнік ці не. Асабліва ў прафесіяналаў. І я зрабіў высновy—мастацкія творы не знаходзяцца ў прамой залежнасці ад тых вызначэнняў псіхічных захворванняў, якімі апелюе сучасная псіхіятрыя.

А вось апошняе пытанне пра дзяржаву ў тэлезапіс не трапіла, бо не паспеў я дагаварыць, як галоўны ўрач запатрабаваў выключыць апаратуру. Асабліва я не стаў перажываць, бо ўсё, што хацеў, зрабіў — даказаў, што ў творчай барацьбе мастацтва з навукай, а ў дадзеным варыянце з медыцынай, мастак перамагае. Але дзеля прыстойнасці згадаў Далі і Мандрыяна, якіх у СССР публічна абзывалі вар'ятамі. Ды стылю ракако з маньерызмам, бо пра іх таксама гаварылася, як пра разумовую і творчую дэградацыю вышэйшых слаёў грамадства.

Рэвункоў чамусьці палічыў гэтае пытанне важным, а галоўнага ўрача занадта катэгарычным. Спрэчка пачала разгарацца з хуткасцю падзення ў шахту. Урач разважаў і крытыкаваў тэлебачанне, а рэжысёр — медыцыну. Сварка набыла небяспечны характар, яна праходзіла ўжо на вуліцы, і ў ёй удзельнічалі з боку рэжысёра — шафёр з апаратарам, а з боку ўрача—мажная жанчына ў маленькім накрухмаленым каўпачку.

— Вы толькі краты на вокнах паказваеце і розную парнаграфію па тэлевізары!

— А што, у вас няма на вокнах кратаў?

— А вы звадзіце буйнага вар'ята ў прыбіральню на пятым паверсе. І каб не было кратаў, я паглядзела б, хто з вас першы ляжаў бы на гэтым вось асфальце.

Пачаўся дождж.

Раптам Круглянскі звярнуўся да мяне і Сцяпана з прапановаю паглядзець яшчэ адну папку з малюнкамі. У кабінеце ён дастаў з шафы каньяк і чаркі.

— Спрачацца не трэба,— разважаў доктар.— Вось ваш рэжысёр увесь час шукае канфлікты там, дзе іх няма. Якія рэпрэсіі на Беларусі? Так, я згодны, маглі памыліцца, нават згодны, што маглі быць асобныя выпадкі перавышэння паўнамоцтваў з боку лекара. Але што гэта ўсё значыць у параўнанні з колькасцю выратаваных ад турмы, ад войска, ад хваробы? Вось той жа мастак Хацкевіч-Мінскі, якому за ўласную дурасць пагражала 15 гадоў зняволення. Гэта ж смешна: абвінавацілі дзівака ў тэрарызме. Толькі гэта зразумелі ў лякарні і сярод мастакоў, а не ў турме і пракуратуры. дыскрэдытаваць лякарню, а тым больш вар'ятню, вельмі лёгка. А вось пабудаваць яе і працаваць у ёй зможа не кожны...

У кабінет зазірнула маладзенькая занепакоеная медсястра і сказала, што нас ужо чакаюць.

На тэлестудыі пайшлі перакосы: замест каляровай выявы на экране з'явілася чорна-белая. Рэжысёр Рэвункоў ніяк не мог супакоіцца пасля сутычкі з галоўным урачом...

Але каньяк змікшыраваў канфлікт, і са студыі я выходзіў задаволены і вясёлы.

Сюжэт з вар'ятняю не выйшаў у праграме «Крок». Рэдактар Цімохіна тлумачыла, што ён асацыяльны і вялы, а праблемы, вакол якіх круцілася размова, нецікавыя шырокаму гледачу...

Шырокі глядач, вузкі глядач, глядач тупы, глядач дэбіл...

Праз пару месяцаў сюжэт выпусцілі на экран у перадачы «У жывапісе, графіцы, скульптуры». Розгалас ад яе не пайшоў, але ні абразлівых лістоў, ні скаргаў тэлевізія не атрымала. Напэўна, амбіцыйны мастак палічыў бы такі вынік за правал, а я і Сцяпан атрымалі задавальненне — праца зроблена ад А да Я, ці правільней: ад Я да ТЫ. А гэта шмат, бо наступны мой сюжэт так і не ўбачылі гледачы.

## 3. Койданава ці Дзяржынск?

Другі сюжэт я назваў «Тэленавела пра Койданава». Задума была вельмі простая — паехаць і зняць «у лоб» невялікі горад з ягонымі праблемамі. А праблемы я ведаў, бо там нарадзіўся.

Надвор'е стаяла кіслае, дождж то пачынаўся, то пераставаў — правінцыя патанала ў смузе і гразі.

Пачаліся здымкі на станцыі Койданава. Я падышоў да маладога мужчыны ў зашмальцаванай балоннеавай курткі і спытаў:

— Які гэта горад?

— Дзяржынск,— на твары праступіла нядобразычлівая хітрасць.

— А чаму на станцыйным будынку напісана «Койданава»?

— Не ведаю, спытайце у каго іншага...

На ганку круціліся дасціпныя дзеці — два хлопцы ў брудных ботах і вязаных шапках.

— А вы ведаеце чаму ў горадзе Дзяржынску станцыя называецца «Койданава»?

— Ведаем...

— Чаму?

— Таму, што горад раней называўся Койданава.

Тут я папрасіў аператара зняць краявід, бо, па задуме, на фоне станцыйных буданчыкаў хацеў паставіць песню рокгурта «Бонда». Пакуль мы рабілі, так бы мовіць, уступ-уверцюру, рэжысёр Рэвункоў і рэдактар Цімохіна знайшлі за станцыяй вялізнае паню з Леніным і надпісамі накшталт: «Праўда — зброя перабудовы!» Я не вялікі прыхільнік пляц-рэалізму, але стаў перад паню і сказаў, што клянуся гаварыць пра Койданава праўду, толькі праўду і нічога акрамя той жа ж малапрыемнай праўды. Сцяпан таксама пакляўся.

— Куды цяпер,— спытаў шафёр, які спазніўся на здымкі на паўгадзіны, і якога Рэвункоў пракляў разам з «Крокам» і БТ разоў са сто.

— На пляц, да помніка першаму чэкісту.

Раней, у часы майго піянерскага дзяцінства, помнік стаяў у скверы і паглядаў з аблушчанага пастамента на кіёск з марозівам. Цяпер палову сквера высеклі, замест марозівага кіёска пабудавалі вялізны райкама-гаркама-выканкам, помнік апынуўся ў цэнтры пляца, і яго пафарбавалі пад бронзу, але жалеза-бетонная сутнасць усё ж засталася.

На прыступках, пад Дзяржынскім, я перапыніў чародку школьніц з доўгімі косамі, белымі бантамі і яркімі сумкамі. Выдатны матыў сацыялістычнага рэалізму.

— Мы за Койданава! — зацікавілі дзяўчаткі.

— Гэта старажытная назва... Мы любім наш горад і ягоную гісторыю... У нашай газеце «Шлях камунізму» пісалі пра назву, і ў нашай школе ўсе за Койданава.

Школьніцам відавочна падабалася камера, але трэба было ісці далей, і мы пайшлі да магазінаў.

Я сціснуў мікрафон, як эскімо, і пачаў маналог пра чаргу па хлеб, у якой выстойвала на пачатку 60-х усё Койданава па тры-чатыры гадзіны.

Краіна сеяла кукурузу, хлеба не хапала, давалі па два боханы ў рукі, стаялі сем'ямі — з дзецьмі. Зіма, мароз, цёмная тоўстая змяя-чарга на пляцы... Насупраць крамы — праваслаўны храм. І поп, «Дай Бог яму здароўя!» — казалі цёткі з чаргі, здагадаўся не зачыняць царкву, і людзі хадзілі туды грэцца. У халодным прапахлым ядлоўцам і воскам саборы не падаў снег і не свістаў пякучы вецер.

Ад часоў мінулых я вывернуў маналог на сучаснасць з яе пустымі крамамі. А потым перайшоў да рэлігії.

У Дзяржынскім раёне няма касцёла. Койданаўскія католікі ездзяць або ў Рубяжэвічы або ў Мінск, раён вялікі, католікаў шмат, а ў будынку, дзе быў касцёл — музычная школа. Тое, што дзеткі праваслаўных, католікаў, яўрэяў, камуністаў і беспартыйных вывучаюць сальфеджыо, выдатна. Але тое, што старыя кабеты павінны гадзінамі трэсціся ў бітма набітых аўтобусах і электрычках, каб наведаць сабор і асвянціць велікоднае яйка, блага і не па-людску. А менавіта так склалася ў маім родным горадзе, дзе мясцовыя ўлады гвалтам перарабілі касцёл у клуб і ціха клуб у музычную школу. На ўсе патрабаванні католікаў вярнуць будынак, начальнікі на чале са старшынёй гарвыканкама Свалыгам адказваюць адно, што няма куды падзець 326 дзетак з нотнымі сшыткамі. Абыцанкі вярнуць будынак у 1995 годзе не задавальняюць католікаў.

«Нам цяпер касцёл патрэбны,—казала мне Камілія Вацлаваўна Мілько.— Мы ж старыя жанчыны. А дзе той 95 год? Можам жа і не дажыць. Мы ж свае просім, а не чужое. І рамонт мы самі зробім, хай толькі аддадуць касцёл...»

У сваім тэлеманалогу я не стаў доўга тлумачыць пра касцёл у Койданаве, а толькі назваў саму праблему.

500 католікаў патрабуюць вярнуць касцёл, мясцовыя ўлады адмаўляюць і тым часам будуюць сабе палац — райкамагаркама-выканкам, у якім можна размясціць 5, а то і 10 музычных школ па 326 дзетак у кожнай. І паставілі той палац якраз насупраць помніка Феліксу Дзяржынскаму, пэўна, спадзеючыся, што ён, калі што якое, абароніць.

Ад маналога я перайшоў да інтэрв'ю. Мужчына гадоў сарака з батонамі пад пахаю, відавочна, намерваўся нешта сказаць.

— Скажыце, калі ласка, якую назву павінен насіць ваш горад? — я паднёс мікрафон.

— Койданава!.. Таму што Дзяржынскі — кат. Ён жа столькі людзей у зямлю паклаў. А яму яшчэ і помнікі ставяць...

— А нашто вам тры батоны?

— Сям'я вялікая. Думаеце збіць мяне з тропу?! — мужчына пакрыўдзіўся,— але я скажу. Вось тут, перад хлопцамі... (Натоўп, што назбіраўся каля магазіна, зашумеў.) Вы тут у цётак пыталіся, як мы жывём. Яны збаяліся сказаць. А жывём мы, як тая скаціна ў хляве, а, можа,

**(Працяг на стар. 15).**

